№ 4 (937) 27 студзеня 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Хто купляў самыя дарагія кватэры Беларусі ў 2015?

Самыя актыўныя на рынку — студэнткі і расіяне. **Старонка 6.**





# Краіна павінна ведаць сваіх герояў









# «Праз нейкі час налілася лужына крыві»

У панядзелак проста ў будынку суда мінскія амапаўцы **дваццаць хвілін збівалі нагамі** трох юнакоў. Пасля гэтага тут жа ў судзе хлопцаў асудзілі за непадпарадкаванне і хуліганства. Магчыма, садызм застаўся б незаўважаны. Але адным са збітых аказаўся журналіст партала «Тут.бай».

Гукі збіцця былі выразна чуваць у суседняй зале, дзе ішло пасяджэнне па г.зв. «справе графіцістаў». Гэты выразна палітычны працэс вядзе суддзя Фрунзенскага раёна Мінска Скуратовіч.

Падтрымаць графіцістаў прыйшлі двое іхніх сяброў — Павал Сяргей і Максім Шыцік. Хлопцы расцягнулі банер «Не палітычнаму пераследу» і пару разоў выгукнулі: «Мастацтва — не злачынства». У адказ суддзя загадала вывесці хлопцаў з залы, што зрабіў адзін міліцыянер у форме і яшчэ некалькі асобаў у цывільным.

На відэа «Нашай Нівы» відаць, як хлопцаў выпхнулі з залы і хутка павялі за дзверы побач. Таксама відаць, як туды ж, здымаючы ўсё на тэлефон, прашмыгнуў журналіст Павал Дабравольскі.

Пасля на некалькі гадзінаў сувязь з хлопцамі знікла. Увечары стала вядома, што іх жорстка збілі і прысудзілі да вялізных штрафаў. 9—10 мільёнаў — для большасці беларусаў гэта тры месячныя заробкі!

«Нас закінулі ў невялікае памяшканне і адразу ж пачалі збіваць, — расказаў потым журналіст Павал Дабравольскі. — Мяне білі адразу ўтрох, некалькі хвілін быў шквал удараў, потым я проста ляжаў тварам у падлогу і перыядычна атрымліваў нагамі ў галаву. Калі я чарговы раз сказаў, што я журналіст, то мне прыляцеў яшчэ адзін удар са словамі: «Свабоднай журналістыкі захацеў? На, атрымай».

**Працяг на старонцы 2.**

# Пуцін раскрытыкаваў Леніна за тое, што той дазволіў стварэнне Украіны і Беларусі

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін пракаментаваў сваё выказванне на адрас Уладзіміра Леніна, якога на мінулым тыдні ён абвінаваціў у развале СССР. Па словах прэзідэнта, той заклаў міну запаволенага дзеяння пад расейскую дзяржаўнасць.

«Я меў на ўвазе дыскусію паміж Сталіным і Леніным з нагоды таго, як будаваць новую дзяржаву — Савецкі Саюз», — растлумачыў Пуцін на форуме Агульнарасійскага народнага фронту.

Кіраўнік дзяржавы нагадаў, што Сталін сфармуляваў ідэю аўтанамізацыі СССР, у адпаведнасці з якой «суб'екты будучай дзяржавы павінны былі ўвайсці ў СССР на аснове аўтаноміі з шырокімі паўнамоцтвамі» — як потым у складзе Расіі былі, напрыклад, Комі АССР, Якуцкая аўтаномія, Ленін жа прапанаваў, каб былі асобныя БССР, УССР.

Па словах Пуціна, Ленін выступаў за тое, каб СССР утварыўся на аснове поўнага раўнапраўя з правам выхаду з Саюза. Пуцін, як калісьці перад вайной Гітлер, лічыць, што «пры гэтым межы вызначаліся зусім адвольна і далёка не заўсёды абгрунтавана. На Украіну, напрыклад, Данбас перадалі. З якой падставай: павышэнне адсотка пралетарыяту на Украіне для таго, каб мець там вялікую сацыяльную падтрымку. Гэта жах нейкі», — заявіў Пуцін.

Кіраўнік расійскай дзяржавы адзначыў, што пазіцыя Леніна па дзяржпабудове нароўні з неэфектыўнай эканамічнай і сацыяльнай палітыкай прывяла да распаду СССР. «Гэта і ёсць міна запаволенага дзеяння. А што ж гэта інакш? Менавіта так яно і ёсць», — думае расійскі лідар.

У Беларусі і Украіне многія бачаць у расійскай палітыцы падрыхтоўку да новага перадзелу межаў на карысць Расіі. Захоп Крыма і спроба далучэння Данбаса прывялі да ваенных дзеянняў ва Украіне, ахвярамі якіх сталі каля 9000 чалавек.

**Мікола Бугай**

## Танцы над горадам



Уладзімір Арлоў. Урыўкі з новай аповесці. **Старонка 14.**

## Як у Полацку 1638 года разглядалі справу аб імпатэнцыі мужа

Піша гісторык Уладзімір Лобач. **Старонка 13.**

## «Человек — пи…ец природы»



Выйшла кніга прозы і паэзіі старшыні БТРК Генадзя Давыдзькі. **Старонка 9.**

## Вакансіі ў Мінску і рэгіёнах

Дадзеныя — **старонка 5.**

# «Праз нейкі час налілася

Працяг са старонкі 1.


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Павал сказаў нам, што не бачыў, як збівалі тых двух хлопцаў, бо ён ляжаў тварам у падлогу і закрываў галаву рукамі. Але іх крыкі і глухія гукі ўдараў было добра чуваць.

«Падлога была вельмі брудная, валасы нейкія, пясок. Мне разбілі сківіцу, і адтуль пайшла кроў, пры гэтым адзін з амапаўцаў паставіў ля мяне крэсла, сеў на яго, а нагою прыціскаў маю галаву да падлогі. Таксама ўвесь час, калі хтосьці перасоўваўся па пакоі, ці выходзіў-заходзіў, то абавязкова наступаў мне на галаву. Праз нейкі час налілася лужына маёй крыві, але яны толькі смяяліся, што яна павялічваецца», — сказаў Дабравольскі.

У гэткім жа духу пра падзеі ў судовым кабінеце расказвае і іншы пацярпелы Павал Сяргей.

«Нас выперлі за дзверы і хутка адвялі ў нейкі кабінет. Я думаў, што зараз афармяць затрыманне і ўсё такое, але атрымаў удар па нагах, ад якога зваліўся на падлогу і адразу ж мяне пачалі біць, скакаць па мне, таптаць. Гэта ўсё хвілін 20 дзесьці адбывалася. Трэці хлопец сказаў некалькі разоў, што ён журналіст, але тыя адказалі, што ім «по*уй». Як гэтыя суняліся, то пачалася прадуманыя знявагі: што мы ўсе канчаныя, што мы ўблюдкі. Мне яшчэ пашанцавала, бо я паспеў прыкрыць галаву рукамі, а мой сябар Максім не паспеў, і яму разбілі брыво. Хутка налілося шмат крыві, ён прасіў вады і бінт, але тыя нічога не давалі і толькі хвілін праз 40 кінулі яму наш банер абцерці твар», — расказаў Павал.

Максіму Шыціку ж пасля збіцця асабліва запомніўся момант, калі ў яго нага сябра знайшлі кнігу Чака Паланіка «Ацалелы». Маўляў, амапаўцы смяяліся з гэтага і казалі, што ўласнік насамрэч больш ацалеў, чым іншыя.

Паводле хлопцаў, пасля гэтага пад пагрозай «дубля два» ім загадалі маўчаць, вывелі і пасадзілі ў міліцэйскую машыну, на якой завезлі ў Фрунзенскае РУУС, дзе на іх склалі пратаколы за «лаянку» і «супраціў міліцыі».

«Мне загадалі падпісаць пратакол, альбо мяне зноў паб'юць і «пасядзяць на суткі да бамжоў», — расказаў Павел Дабравольскі. — Я разумеў, што гэты супрацоўнік РУУС — шасцёрка, якая нічога не вырашае, таму нічога не падпісваў. Папрасіў толькі вады, мне прынеслі шклянку ржавай — я глыток зрабіў і выплюнуў яе».

Гэтаксама пратаколы склалі і на Сяргея з Шыцікам, хлопцы іх падпісалі.

Пасля іх зноў павезлі ў той жа суд, дзе адбылося збіццё. Суддзя Марыя Ярохіна заслухала абвінавачанні супраць хлопцаў і прысудзіла ўсіх трох да штрафаў. У якасці сведкі выступіў супрацоўнік органаў унутраных спраў Сяргей Кавальчук, які, па словах асуджаных, браў удзел у іх збіцці.

Працяг на старонцы 3.

Па «справе графіцістаў» перад судом паўсталі Максім Пякарскі, Вадзім Жаромскі і Вячаслаў Касінераў — аўтары графіці «Рэвалюцыя свядомасці» і «Беларусь мае быць беларускай». Міліцыя зачапілася за тое, што на адным з іх малюнкаў была постаць юнака з чымсьці, што нагадвае кактэйль Молатава.

Хоць графіці тыя з'явіліся на непрыгожых сценах, юнакоў арыштавалі, распачалі крымінальную справу. Выпусцілі іх з СІЗА толькі пад ціскам грамадскай думкі.

Спецназ жорстка затрымаў пяцёх хлопцаў 11 жніўня: трох з іх арыштавалі, двух адпусцілі. Акрамя графіці, хлопцаў абвінавачваюць у пашкоджанні фарбай сацыяльнага білборда з выявай супрацоўнікаў міліцыі.

Як распавялі журналістам самі абвінавачаныя, экспертыза надпісаў не знайшла ў іх прыкмет экстрэмізму.

## Прэс-сакратарка Вярхоўнага суда: Ад сябе асабіста я прыношу прабачэнні

«Сённяшнюю сітуацыю ў судзе Фрунзенскага раёна горада Мінска пракаментаваць, не ведаючы ўсіх акалічнасцяў здарэння, не бяруся. Заўтра будзем разбірацца. Але ад сябе асабіста я прыношу прабачэнні ўсёй журналісцкай супольнасці», — напісала прэс-сакратарка Вярхоўнага суда Юлія Ляскова на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

25 студзеня журналіста Паўла Дабравольскага, які здымаў на відэа затрыманне хлопцаў, што дасталі транспарант пратэсту на судзе па «справе графіцістаў», затрымалі разам з пратэстоўцамі і збілі.

Са словаў затрыманых, ім нанеслі дзясяткі ўдараў нагамі.



Адразу пасля затрымання хлопцаў пачалі збіваць у суседнім пакоі: гукі збіцця былі чуваць у зале суда. Пасля гэтага ў судзе Фрунзенскага раёна іх аштрафавалі на 9—10 мільёнаў рублёў.

Назіранне

## Ігар Маханёк: Галоўны кантраст між Мінскам і Цюрыхам — у стаўленні міліцыі да людзей

Ігар Маханёк належыць да сусветнай інжынернай эліты. Ён яшчэ школьнікам перамагаў у міжнародных алімпіядах па інфарматыцы. Пасля вучобы яго запрасілі на работу ў «Гугл», пасля ён перайшоў у «Фэйсбук» — перадавыя камп'ютарныя кампаніі.

Маханёк з тых людзей, якія ствараюць «дададзеную вартасць» на каласальныя сумы. На Захадзе гэтая прафесія называецца «камп'ютарны інжынер», у нас — «праграміст». Краіны свету змагаюцца за тое, каб прыцягнуць такіх людзей на жыхарства, бо гэта залатыя галовы.

Маханёк жыве ў Каліфорніі, але не парывае сувязяў з Беларуссю, падтрымлівае беларускамоўныя культурныя праекты.

Вось як ён адкаментаваў падзеі ў Фрунзенскім судзе.

«Калі я пераязджаў з Беларусі ў Швейцарыю [на работу ў «Гугл»], асноўным маім пазітыўным адчуваннем было адчуванне бяспекі.

У Беларусі пастаянны стрэс ад павышанага ўзроўню небяспекі. Пры-



чым гэтая небяспека сыходзіць не ад бандытаў і крыміналу. [Жывеш з пачуццём, што] любы можа быць збіты і пасаджаны ў турму, і дамагчыся справядлівасці немагчыма.

У Мінску пры выглядзе міліцыянта заўсёды хочацца перайсці на другі бок вуліцы.

Памятаю, як дзіўна было ў Швейцарыі глядзець на паліцыянтаў, што пасміхаюцца, якія хочуць дапамагчы, а не ўпячы.

У ЗША тое самае. Паліцыянтаў у Нью-Ёрку на вуліцах больш, чым у Цюрыху, але яны не выклікаюць [пачуцця] небяспекі.

Гэтая гісторыя з журналістам Tut.by — проста яшчэ адно пацверджанне, што нічога не змянілася.

### Самае чытанае на nn.by за 20—26 студзеня

1 Краіна мусіць ведаць сваіх «герояў». Твары тых, хто збіваў журналіста і хлопцаў у судзе

2 «Яны я***цца як богі»: заносы, але і філасофскія развагі ў прозе і вершах 20-гадовай Ксені Сітнік

3 Прыгожая расіянка? Але пад руку ёй не пападайся

4 «Человек — пи…ец природы»: выйшла кніга прозы і паэзіі старшыні БТРК Генадзя Давыдзькі

5 Праваслаўны святар з Жухавіч: «Калі рускі мядзведзь прачнецца, то месца будзе мала ўсім»

6 У Беларусі — чырвоны ўзровень дэмаграфічнай небяспекі

7 Дэвальвацыя яшчэ на 5%: у чацвер даляр падскокваў да 21 560 рублёў

8 «Перапіс беларускамоўнага насельніцтва» «Мовы нанова» выклікаў ланцуговую рэакцыю

9 Мінская школьніца збегла ад бацькоў, баючыся вяселля

10 Былая жонка Пуціна выйшла замуж за бізнэсмена, маладзейшага на 20 гадоў?

# лужына крыві»


Два хлопцы абсалютна спакойна выказалі свой пратэст.

Сам жа я забіўся ў куток, з бакоў ад удараў мяне прыкрывалі сцены, але я ўсё роўна прапусціў удар у брыво, вылілася шмат крыві», — Максім Шыцік.



Павел Дабравольскі зняў пабоі.


**Юрый Зісер**, уласнік Tut.by: «Я не здольны зразумець людзей, надзеленых уладай, якія б'юць безабаронных нагамі, незразумела навошта, проста з любві да мастацтва. Гэта нават не выдаткі прафесіі: іх такім паводзінам спецыяльна не вучылі. Гэта прадукт беспакаранага гвалту і няспраўядлівасці, што чыніцца ад імя дзяржавы».

«Суд стаў чарговым ударам. Гэтыя амапаўцы казалі суддзі Марыі Ярохінай, што я біў іх і лаяўся, але ў іх не было ні аўдыё, ні відэазапісу, а тая проста верыла іхнім словам. Калі я паказваў ёй разарваную куртку і запечаную кроў на твары, то яна ніяк на гэта не рэагавала», — **Павел Дабравольскі пра суд**.

«Калі нас завялі ў пакой і пачалі біць, то я пачуў, што з намі б'юць і левага чалавека. Ён стаў крычаць, што вы робіце, я журналіст, але гэтым было напляваць. Яны называлі яго «журналюшкай» і білі мацней за нас, бо мы нічога не казалі, а ён спрабаваў іх спыніць. Сам жа я забіўся ў куток, з бакоў ад удараў мяне прыкрывалі сцены, але я ўсё роўна прапусціў удар у брыво, вылілася шмат крыві», — **Максім Шыцік**.

«Схадзіць у туалет у РУУСе не давалі», — **Павел Дабравольскі.**

**Працяг са старонкі 2.**

Максіма Шыціка і Паўла Дабравольскага прысудзілі да штрафу ў 45 базавых велічынь — 9 450 000 рублёў, а Паўла Сяргея да штрафу 50 базавых велічынь — 10 500 000.

Адразу пасля таго, як іх выпусцілі, хлопцы напісалі заяву пра збіццё і цяпер здымаюць пабоі.

Па словах журналіста Дабравольскага, плаціць штраф ён не збіраецца, бо гэта будзе выглядаць, нібыта ён даплачвае катам за пабоі.

«Можа, цяпер ім і нічога не будзе, але галоўнае, каб іхнія імёны засталіся ў гісторыі. Гадоў праз 5—10 ім гэта яшчэ прыгадаецца», — сказаў Дабравольскі.

Уласнік Tut.by Юрый Зісер у каментары «Нашай Ніве» адзначыў, што звычайна пасля такіх выпадкаў сваіх пасадаў пазбаўляецца ўсё кіраўніцтва органаў. Але ў нас вялікай справай будзе, калі пакараюць хаця б тых, хто сам збіваў.

Міліцыі ж спатрэбіўся дзень, каб апраўдаць паводзіны сваіх супрацоўнікаў.

У апублікаваным у аўторак паведамленні МУС значыцца, што «двое жыхароў Маладзечна перашкаджалі судоваму пасяджэнню і не падпарадкоўваліся патрабаванням міліцыі, у сувязі з чым была ўжытая фізічная сіла. А грамадзянін П.Дабравольскі, які пранік у службовае памяшканне, дзе знаходзіліся парушальнікі правапарадку, перашкаджаў законным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, на заўвагі спыніць свае супрацьпраўныя дзеянні не рэагаваў. У адпаведнасці з законам «Аб органах унутраных спраў» для спынення супрацьпраўных дзеянняў ужывалася фізічная сіла. Па факце правамернасці яе ўжывання ў ГУУС Мінгарвыканкама прызначаная службовая праверка».

Вось так проста ў судзе 20 хвілін білі ляжачых людзей, і дзясяткі людзей гэта чулі, а міліцыя робіць выгляд, што яны ўсяго толькі кіруюцца службовымі інструкцыямі. Пасля гэтага нехта спадзяецца на павагу і давер?

**Арцём Гарбацэвіч**

**Іншы погляд**

## Урфін Джус і ягоныя драўляныя салдаты

Здараецца, выпадае шчаслівая хвілінка, а то і пара дзён шчаслівага забыцця. Займаешся сваімі справамі, ходзіш туды-сюды і не памятаеш, што ёсць амапаўцы, ёсць кіраўнікі амапаўцаў і кіраўнік кіраўнікоў. У вачах тваіх тады спакой, любоў да існага і ліцвінская бездань. Ходзіш, ходзіш, а пасля — херак... Зірнеш, як збівалі «мітынгоўцаў» на працэсе графіцістаў, і ўсё. Няма ліцвінскай бездані. Знікла.

Па судовай справе — што гаварыць. Усё ясна. Дзяржавушка нагадвае такую, як бы гэта сказаць, жабу, якая злізвае сваім ружовым языком то аднаго выпадковага камарыка, то другога і перыядычна падстаўляе цельца нягрэбліваму саюзніку, які зацалоўвае яго з нулявым эфектам.

Але на відэа было больш. На відэа збіцця я пачуў знаёмыя «стаяць! стаяць, б...!» і адразу узгадаў тыя ж самыя «стаяць, б...» на Калектарнай у 2010. Узгадаў, і як падчас суда над Някляевым, Рымашэўскім, Дзмітрыевым і Палажанкай сярод натоўпаў бяскрыўдных інтэлігенцікаў у судзе Фрунзенскага раёна тусаваліся вось такія ж самыя чувачкі, якія «стаяць, б...», і як яны раўлі праз лесвічны пралёт адзін аднаму нешта тыпу:

— Коля, б..., ты бабло, с..., вісіш, б...! Аддаваць нада. Гы-гы-гы.

— Данунах.... гыгыгы.

Ах, якія яны былі: швэдрыкі, штонікі, «модныя» туфелькі з вострымі носікамі. Рацыі. Пісталецікі. І пасярод такой прыгажосці: «Коля, б...!»

Яны — трэба разумець — парадак ахоўвалі. Напрыклад, ад Бураўкіна. Каб Бураўкін нікога там не пабіў. Ну і паралельна вырашалі ўласныя фінансавыя пытанні. Наша міліцыя. Са светленькімі валосікамі. Крэпенькімі шыйкамі. Бліскучымі алейнымі вочкамі. Наетыя, напітыя. Чысценькія. Акуратненькія. Адмыслова выгадаваныя.

І вось я зараз думаю: ці трэба іхняму Урфіну Джусу, каб яны раўлі «стаяць, б...» і білі журналіста? Не, не трэба. Урфін пастарэў — і задор не той, і, зноў жа, фраў Меркель... Ах, як ад яе патыхала горнымі курортамі Альпаў...

Але спецыяльна выведзеныя, адборныя, са светлымі каротка падстрыжанымі валосікамі і бліскучымі вочкамі — як ім пра гэта расказаць? І хто ім раскажа? І ці павераць яны, што нікому іх «стаяць б...» не патрэбна? Ці, прынамсі, патрэбна не заўсёды? І на якой мове ім пра гэта расказаць, каб яны зразумелі?

Чытаў я такую штуку: аднойчы праз шмат гадоў пасля закрыцця ГУЛАГа ў адзін з лагераў прыехалі студэнты. Нешта там «паднімаць». Чарговае. Высадзіліся яны ў пункце збору, і раптам іх атачыла зграя дзікіх сабак. Зграя дзейнічала надзіва арганізавана. Сабакі не імкнулася гэтых студэнтаў з'есці. Яны іх прымусілі шыхтавацца ў шарэнгу. А калі адзін студэнт паспрабаваў збегчы — яго разарвалі ўшчэнт. Сабакі, вырашчаныя для нясення службы ў ГУЛАГу ведалі, што ўсе людзі — вязні. Так што — вось.

Карацей, так будаўнікі камунізму і стаялі, пакуль іх не выратавалі ад жывёлаў, якія былі навучаны аднаму — ненавідзець людзей, але берагчы іх працоўную сілу.

Сабак, вядома, кокнулі, хоць яны і рабілі роўна тое, чаму іх вучылі. Але тут штука вось у чым. Сухарукі «паэт» на той час даўно карміў чарвей і сабачыя навыкі не былі запатрабаваны. Так што, калі б у тых сабакаў засталіся шчанюкі, шчанюкі маглі б паспрабаваць засвоіць яшчэ адну нялішнюю ісціну: калі ты пёс, ты можаш кусаць і загрызаць, спадзеючыся на пахвалу, але ўсё ж мусіш ведаць, што злобную жывёлу гадуюць не для таго, каб любіць. Таму злобную жывёлу не забіраюць пры пераездзе, злобную жывёлу не бяруць у новы дом. Злобная жывёла сядзіць на ланцугу, абазначаная шыльдай, брэша, вые і некалі замярзае ў будцы. Галодная, злая, у бясконцай любові да гаспадара.

**Стась Карпаў**

## Пяскоў пракаментаваў заяву Мінфіна ЗША аб датычнасці Пуціна да карупцыі

Карумпаванасць прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, у якой яго абвінавацілі ў Мінфіне ЗША, — выдумка. Пра гэта заявіў у панядзелак прэс-сакратар расійскага лідара Дзмітрый Пяскоў.

«Ніводнае з гэтых пытанняў [аб дачыненні Пуціна да карупцыі] не патрабуе адказу, бо яны з'яўляюцца чыстай выдумкай», — заявіў Пяскоў

Раней 25 студзеня прадстаўнік Мінфіна ЗША Адам Шубін у інтэрв'ю «Бі-бі-сі» абвінаваціў Пуціна ў датычнасці да карупцыі. «Мы бачылі, як ён [Пуцін] ўзбагачае сваіх сяброў, блізкіх саюзнікаў і маргіналізуе тых, каго не лічыць сябрамі і хто не валодае дзяржаўнымі активамі. Няхай гэта будзе энергетычнае багацце Расіі ці іншыя дзяржаўныя кантракты, ён аддае гэта [активы] тым, хто будзе яму служыць, і выключае тых, хто не будзе. Для мяне гэта карупцыя», — сказаў чыноўнік.

# На мяжы з Латвіяй здымаюць беларускае фэнтэзі «Неруш»

Праца пачалася яшчэ ў чэрвені 2015 года. Фільм здымаецца па матывах народных легенд. Асноўная частка здымак прайшла ў Віцебскай вобласці, а таксама на мяжы з Латвіяй — у Друі.

У аснове фільма — балада пра трох персанажаў, якія сутыкаюцца са звышнатуральнымі з'явамі і істотамі. У інтэрнэт трапіў трэйлер фільма.

Важна падкрэсліць, што трэйлер быў зняты для прыцягнення сродкаў, бо гэта аматарскае кіно. Стваральнікі фільма дагэтуль не вырашылі, хто будзе выконваць галоўныя ролі, акцёрскі склад не сабраны, затое ёсць сучасная тэхніка і майстры 3D-графікі.

У інтэрв'ю «Беларусь 1» сцэнарыст фільма Юлія Шадзько кажа, што асноўная праца ўжо зробленая, таму што ёсць канфлікт, ёсць героі, ёсць сюжэтная лінія: «Зараз мы абмяркоўваем з рэжысёрам, чым усё гэта можа скончыцца, бо ў нас ёсць некалькі варыянтаў. Ёсць імавернасць, што мы пакінем адкрыты фінал».

**МН**

## Стралкоў, Лімонаў, Прасвірнін заснавалі «Камітэт 25 студзеня»

Іх мэта — **далучыць Беларусь** і Украіну **да Расіі**.

25 студзеня ўвечары ў офісе руху «Наваросія» ў Маскве пад старшынствам Ігара Стралкова, колішняга лідара «ДНР», адбыўся ўстаноўчы сход так званага «Камітэта 25 студзеня».

На пасяджэнні прысутнічалі пісьменнік-нацбол Эдуард Лімонаў, рэдактар сайта «Спутнік і пагром» Ягор Прасвірын, заснавальнік незарэгістраванай Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Канстанцін Крылоў, пісьменнік-футуролаг Максім Калашнікаў, блогер Эль Мюрыд (Анатоль Несміян).

Усё гэта крайне правыя, маргінальныя расійскія палітычныя сілы.

«Сітуацыя ў Расіі моцна нагадвае пярэдадзень Майдану ва Украіне. Пры гэтым у краіне няма разумнай трэцяй сілы, якая б супрацьстаяла як тупіковым, збанкрутаваным ахоўнікам, гэтак і празаходнім беластужачнікам», — напісаў на сваёй старонцы ў жж Максім Калашнікаў.

Эдуард Лімонаў жа вызначыў мэту Камітэта наступным чынам: «Каб Расія не дасталася Хадаркоўскім ліберралам. Стаўленне да існуючай улады — халаднавата ўмеранае».

Сярод сваіх мэтаў «Камітэт 25 студзеня» называе: на першых парах не даць Расіі развaліцца, а ў будучыні — пачаць «палітыку ўзнаўлення рускага народа ў адной дзяржаве». «Пры гэтым для нас рускія — гэта велікаросы, маларосы і беларусы». Такім чынам, рух выступае за ліквідацыю беларускай незалежнасці.

«Дзейная ўлада хворая і занятая самаразбурэннем. Навязваецца ёй у памочнікі мы не маем намеру. І вымазвацца ў ёй — таксама. Яна цяпер на вачах ператвараецца ў хадзячага мерцвяка, забіўшы сябе эканамічным ідыятызмам апошніх 15 гадоў», — працягнуў Калашнікаў.

**Зміцер Панкавец**




## У Мінску адкрываюцца курсы беларускай мовы «Мова з Імбрыкам»

«Мова з Імбрыкам» — так назваў курсы беларускай мовы менеджар, распаўсюднік беларушчыны і ўладальнік інтэрнэт-крамы беларускіх тавараў *imbryk.by* Алесь Мазанік.



Праект можна назваць інтэрнацыянальным — курсы будуць праходзіць у Менску і Вільні.

У чым яго адрозненне ад «Мовы нанова», «Моваведы» і МовыТут»? «Курсы беларускай мовы «Мова з Імбрыкам» маюць нефармальны, забаўляльны характар. Яны больш прыдатныя для адпачынку, чым для сур'ёзнага вывучэння мовы, — кажа Мазанік. — У Вільні жыве шмат беларусаў, якія добра валодаюць беларускай мовай. Для іх курсы стануць пляцоўкай, дзе можна сабрацца, каб весела і карысна правесці час разам з суродзічамі. Гэта курсы для абмену досведам, хоць кожны занятак будзе мець і тэму, і праграму.

Курсы **«Мова з Імбрыкам»** будуць адбывацца:

**Мінск** — штоаўторак, а 20.00, Арт-сядзіба (пр. Незалежнасці, д.58, офіс 430).

**Вільня** — штосуботу, а 17.00, у Доме нацыянальных меншасцяў (вул. Раўгіклас, 25).

**Вядучы курсаў** — Алесь Мазанік.

## Таццяну Караткевіч зноў «няправільна зразумелі»

26 студзеня ў Маскве ў Вышэйшай школе эканомікі праходзіла міжнародная **канфэрэнцыя «БелаРускі дыялог»** з удзелам беларускіх апазіцыйных палітыкаў.




На канфэрэнцыі выступіла экс-кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч. Журналіст «Еўрарадыё» Зміцер Лукашук, які прысутнічаў на мерапрыемстве, напісаў у фэйсбуку цытату з выступу Таццяны:

«Мы лічым, што Беларусь з'яўляецца ваенным і палітычным партнёрам Расеі. Але нашы адносіны павінны будавацца на падмурку ўзаемнай павагі. Радуе тое, што такая павага з боку Расеі ёсць».

Сама Таццяна Караткевіч у каментары для радыё «Свабода» сказала, што яе няправільна зразумелі:

«Я казала пра тое, што нашы ўзаемныя адносіны з Расеяй павінны будавацца на прынцыпах даверу і павагі. І падкрэсліла, што менавіта гэтага сёння не хапае. Я таксама сказала, што нашы адносіны, наша замежная палітыка сёння не перадвызначальныя, хоць і будуюцца на супольнай гісторыі, актуальных эканамічных зносінах. І падкрэсліла, што моцным падмуркам будзе павага. А павага павінна выражацца ў тым, што Расея прызнае нашу незалежнасць і нашы асабістыя нацыянальныя інтарэсы. Я таксама падкрэслівала, што нашы ўзаемныя адносіны павінны будавацца на раўнапраўнай аснове».

Звяртае на сябе ўвагу, хто быў запрошаны ў Маскву ад беларускай апазіцыі: лідарка «Гавары праўду» Таццяна Караткевіч, старшыня «Нашага дома» Вольга Карач, кіраўнік «Справядлівага свету» Сяргей Калякін, прафсаюзны лідар Аляксандр Ярашук.

Сярод астатніх гасцей канферэнцыі варта адзначыць беларусіста з МГУ імя Ламаносава, аўтара паклёпніцкіх артыкулаў на тэму Беларусі ў расійскіх медыя Багдана Бяспалька, а таксама кіраўніка чарнасоценскага сайта *imperiya.by*, супрацоўніка Інстытута краін СНД Юрыя Баранчыка. Нарэшце, прысутнічаў у Маскве беларускі ідэолаг, адзін з аўтараў сайта «Западнарус» Леў Крышталовіч.

**ЗП**

## Памёр першы памочнік Лукашэнкі па эканоміцы

На 80-м годзе жыцця не стала доктара эканамічных навук, прафесара **Пятра Капітулы**.



Пётр Капітула нарадзіўся 4 ліпеня 1936 г. у вёсцы Вялікі Бор (Старадарожскі раён). У 1958 г. скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі (цяпер БДЭУ) па спецыяльнасці «бухгалтарскі ўлік у прамысловасці», у 1965 — Мінскую вышэйшую партыйную школу.

У 1994—2000 гадах працаваў у Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі начальнікам аналітычнага цэнтра, памочнікам прэзідэнта.

З 2001-га — дарадца старшыні рады дырэктараў замежнага прадпрыемства «Лукойл-Беларусь».

У апошнія гады ён асцярожна крытыкаваў кіраўніцтва краіны. «На мой погляд, будзе мінус. Калі на кожны працэнт прыросту ВУП патрабуецца эмісійных крэдытных сродкаў у два разы больш, чым аб'ём росту, то гэта не эканоміка, а самаедства», — казаў ён у 2011 у інтэрв'ю «Белгазеце».

# Звесткі пра вакансіі ў Мінску і рэгіёнах

Хто патрабуецца і **на якія заробкі.**

Заробкі беларусаў растуць, але ўпустую, бо дэвальвацыі з'ядаюць усё. «Наша Ніва» прааналізавала банкі вакансій: колькі грошай і каму сёння прапануюць працадаўцы.

Паводле дадзеных Белстата, сярэдняя зарплата ў лістападзе 2015 года складала 6 748 800 рублёў. Калі адкінуць падаткі, на руках застанецца 5 804 000 рублёў. Калі лічыць у валюце, то сярэдні заробак усох да $330. Зарплата памерам $500 для большасці ператварылася ў недасяжную мэту.

Амаль палова насельніцтва — гэта тыя, хто зарабляе ад 2 да 5 мільёнаў рублёў. Больш за 20 мільёнаў зарабляе толькі 1,4% работнікаў — самых кваліфікаваных (найлепшыя менеджары, праграмісты, дактары і г.д.).

Калі параўноўваць з суседзямі, то сітуацыя выглядае зусім сумна: заробак паляка складае $1100, а ў Літве — $772. Дык там прыватны сектар дамінуе: у людзей больш даходаў ад бізнэсу, акцый, арэнды. Сярэдні літоўскі ці польскі пенсіянер атрымлівае больш, чым умоўны сярэдні беларускі работнік. Пра эстонскага ці фінскага няма чаго і казаць.

Як выправіць сітуацыю самому? Адказ відавочны — змяніць працу. Лепшай работы шукае шмат хто.

Паводле звестак партала *rabota.tut.by*, колькасць рэзюмэ ў параўнанні з 2014 годам павялічылася на 43%.

| Абяцаны заробак | Колькасць вакансій |
|---|---|
| 2—4 мільёны | 14 500 |
| 4—6 мільёнаў | 12 000 |
| 6—10 мільёнаў | 7300 |
| 10—15 мільёнаў | 2800 |
| 15—20 мільёнаў | 1200 |
| Больш за 20 мільёнаў | 700 |

А што за прапановы ёсць на рынку? Абсалютная большасць прапаноў прадугледжвае заробак, далёкі ад афіцыйных лічбаў.

У рэгіёнах знайсці працу ад 6 мільёнаў яшчэ складаней. Калі ў сталіцы такіх вакансій некалькі тысяч, то ў абласных цэнтрах — толькі 200—300.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Праграміст + маркетолаг**

Найбольшыя грошы абяцаюць кіраўнікам, якія валодаюць глыбокімі ведамі і шырокімі сувязямі, і праграмістам. Прычым самыя высокаплачваныя пасады цяпер тыя, дзе трэба валодаць адначасова, напрыклад, ведамі камп'ютарнага інжынера і маркетолага. Напрыклад, кіраўнік аддзела маркетынгу ў кампаніі, якая распрацоўвае мабільныя дадаткі, можа разлічваць на $3—5 тысяч. Старшаму распрацоўшчыку тут (гэта ўжо проста праграміст) абяцаюць $2—4 тысячы.

**Дырэктар + літоўская мова**

Неблагія грошы прапануюць і кіраўнікам у іншых сферах. Праўда, часцей за ўсё гэта кампаніі, якія працуюць з замежнікамі. Так, дырэктар будаўнічай кампаніі можа разлічваць на $2,5 тысячы — але тут умова: трэба ведаць літоўскую і англійскую мовы.

**Інжынер + украінская мова**

$2,5 тысячы даюць і інжынерумеханіку, які свабодна валодае польскай і мае досвед у польскім абсталяванні па вытворчасці паперы і шпалераў.

Што цікава, усё часцей на рынку можна знайсці вакансіі, дзе патрабуецца веданне не толькі англійскай, але і яшчэ адной мовы, звычайна рэдкай.

Скажам, арабскай ці кітайскай. Вось вакансіі інжынера і менеджара па продажах з веданнем англійскай і ўкраінскай у кампаніі, што экспартуе беларускія тавары.

**Са сваім грузавіком**

Ад 700 да 2 000 еўра прапануюць кіроўцу-міжнародніку, аднак тут часам трэба мець уласную фуру.

Ад 10 да 20 мільёнаў абяцаюць кіроўцам таксі, прычым вакансій шмат. Але тут трэба мець сваю машыну і вялікі расход ідзе на яе абслугоўванне.

**Дактары патрабуюцца скрозь**

На заробак да $2 тысяч могуць разлічваць дактары ў прыватных медцэнтрах (у дзяржаўных паліклініках прапануюць 5—10 мільёнаў рублёў). Вакансій дактароў у дзяржпаліклініках — сотні, як і медсёстраў.

Настаўнік у звычайнай мінскай школе — 4 мільёны.

Будаўнік — 5—10 мільёнаў (прычым некаторыя адразу пазначаюць: «алкаголікаў просім нас не турбаваць»).

**Артыст балета на 3 мільёны**

Хапае прапаноў і для творчых людзей. Праўда, заробкі абяцаюць зусім не высокія. Напрыклад, артыст балета ў ансамблі песні і танца Узброеных Сіл ці ў Дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры зможа атрымаць толькі 3 мільёны. Артыст драмы ў Дзяржаўным моладзевым тэатры — увогуле 2,5 мільёна (дарэчы, прыкладна столькі ж прапануюць дворнікам). Праўда, артысты могуць паралельна працаваць недзе яшчэ.

**Патрабуецца дрэсіроўшчык**

Большыя — але не вялікія — заробкі ў Белдзяржцырку. Артыствершнік можа разлічваць на 5 мільёнаў, акрабат — настолькі ж. Таксама прыватная кампанія шукае артыста-дрэсіроўшчыка драпежных звяроў на заробак 6,5 мільёна, працаваць давядзецца з марскімі жывёламі.

**Улад Швядовіч**

## У бабруйскую «Белшыну» прыйшоў багаты расійскі інвестар

Сума ўгоды ацэньваецца на $1 мільён.

У футбольным Бабруйску гэтымі днямі неспакойна. У мясцовую каманду «Белшына» прыйшоў загадкавы расійскі інвестар — група кампаній «Сохра Груп». Гэты бізнэс займаецца продажам беларускіх грузавікоў, аўтобусаў і іншай тэхнікі за мяжу.

Новая ўлада яшчэ не прызначаная, пагадненні не падпісаныя, але расейцы ўжо пачынаюць дыктаваць свае правілы гульні. Адпраўлены ў адстаўку галоўны трэнер каманды Віталь Паўлаў, які быў прызначаны толькі пасля Новага года, ён меркаваў захаваць леташні склад каманды, які заняў высокае чацвёртае месца. А на першыя зборы каманды накіраваліся толькі двое гульцоў леташняй асновы — Панкратаў і Карамушка — плюс некалькі перспектыўных маладзёнаў. Затое чакаецца прыезд некалькіх расейцаў і аргенцінцаў.

Каманду цяпер трэніруе расейскі спецыяліст Уладзімір Яжураў, апошнім клубам якога быў краснаярскі «Енісей».

Камунальнае спартыўнае ўнітарнае прадпрыемства «Бабруйскі футбольны клуб «Белшына» было ў падпарадкаванні гарвыканкама. Заключэннем пагадненняў з новымі ўладальнікамі займаюцца якраз гарадскія чыноўнікі.

Паводле крыніц «НН», сума ўгоды складзе каля 1 мільёна даляраў. Новыя ўласнікі спадзяваліся атрымаць не толькі клуб, але і маёмасць, што знаходзілася ў падпарадкаванні




«Белшыны» — у тым ліку 9-павярховую гасцініцу з рэстаранам, базу з саўнай і полем, а таксама стадыён са штучным пакрыццём. Урэшце гарадскія ўлады пайшлі на папятную. Маёмасць застанецца муніцыпальнай.

У футбольных асяродках кажуць, што новыя інвестары ездзілі па многіх гарадах Беларусі. Яны былі ў Брэсце, але іх напалохала тое, што мясцовае «Дынама» мае вялікія пазыкі.

У «Крумкачах» яны не змаглі дамовіцца з уласнікам каманды Дзянісам Шунто. Былі гэтыя людзі таксама ў Магілёве, але мінус каманды гэтага абласнога цэнтра ў тым, што яна не гуляе ў вышэйшай лізе. У Магілёве ўпершыню і прагучала прапанова адносна бабруйскай «Белшыны». А далей усё было як у «Залатым цяляці» Ільфа і Пятрова: «Пры слове «Бабруйск» сход хваравіта застагнаў. Усе згаджаліся ехаць у Бабруйск хоць цяпер. Бабруйск лічыўся выдатным, высокакультурным месцам».

**Зміцер Панкавец**

## Звольнілі прадавачку, якая выгнала з крамы маму з каляскай

Перад сям'ёй мінчукоў, якую выставілі з крамы «Калінка», выбачыліся.

Пра іх няўдалы паход у краму стала вядома два тыдні таму. Пару з каляскай «папрасілі выйсці з крамы», патлумачыўшы, што з каляскамі да іх нельга. Сітуацыя выклікала буру эмоцый.

Абураны кіраўнік сямейства папрасіў кнігу заўваг і прапаноў. Яе не далі, паабяцаўшы прывезці праз 45 хвілін. Праз 40 хвілін магазін зачыніўся, а на дзвярах з'явіўся надпіс «Просьба: з дзіцячымі каляскамі не заязджаць».

Пакрыўджаная сям'я вырашыла давесці справу да канца, вярнулася ў краму праз пару дзён і ўсё ж пакінула ў кнізе заўваг і прапаноў свае прэтэнзіі.

І вось маладым бацькам прыйшоў адказ з «Калінкі»: «За парушэнне сваіх службовых абавязкаў загадчыцы крамы... абвешчана вымова, прадавец... звольненая. Адміністрацыя ЗАТ «Калінка» прыносіць Вашай сям'і шчырыя прабачэнні за дзеянні сваіх работнікаў».

«Надпіс «Просьба: з дзіцячымі каляскамі не заязджаць» знялі з дзвярэй крамы ў той жа дзень. У нас шмат магазінаў па ўсёй краіне, і з калясками можна ўсюды», — пракаментавала намеснік дырэктара па тавараправадной сетцы ЗАТ «Калінка» Марына Нікіціна.

**Паводле Kp.by**

## За год рамеснікамі сталі амаль 18 тысяч беларусаў

У 2015 годзе ў Беларусі зарэгістравалі 17660 рамеснікаў. Прычым амаль палова з іх афіцыйна стала «майстрамі» ў кастрычніку-снежні.

Паводле закона, індывідуальныя прадпрымальнікі-рамеснікі ўносяць у бюджэт па адной базавай велічыні ў год (цяпер — 210 тысяч рублёў).

Затое яны вызваленыя ад выплаты збору на дармаедства, які складае 20 базавых велічынь у год. Праўда, каб не плаціць гэты збор за мінулы год, «майстрам» трэба было стаць да 1 студзеня 2015 года.

**БЮ**

## Як праверыць якасць масла?

Нядаўна журналіст «Нашай Нівы» купіў масла беларускага вытворцы. Самае звычайнае, 180 грамаў у пачку. Але смак падаўся падазроным, бо хутчэй нагадваў спрэд.

Каб перакanaцца, што гэта альбо ў журналіста з рэцэптарамі не тое, альбо пакупнікоў дураць, было вырашана занесці гэтае масла на экспертызу. Хай прафесіяналы праверaць адпаведнасць масла заяўленаму складу.

Куды несці?

Спачатку мы патэлефанавалі ў таварыства па абароне правоў спажыўцоў, дзе сказалі, што экспертызамі харчовага масла яны не займаюцца.

Потым паспрабавалі праверыць масла ў лабараторыі Мінскага малаказавода №1, але тамтэйшы загадчык адказаў, што чужое масла яны не правяраюць, і параіў звярнуцца ў БелДІМ (Беларускі дзяржаўны інстытут метралогіі).

У гэтым інстытуце супрацоўніцы харчовай лабараторыі спачатку пужалі вялікімі выдаткамі на экспертызу, а потым папрасілі пачакаць кіраўніцтва, якое і вырашыць, ці зробяць яны экспертызу.

«Кіраўніцтвам» аказалася жанчына сярэдняга веку, якая завяла журналіста ў свой кабінет і дзесьці з паўгадзіны даводзіла, што а) адкуль яна ведае, што я не паклаў іншае масла ў гэтую абгортку? б) адкуль яна ведае, што я купіў гэта масла ў беларускай краме? в) адкуль яна ведае, што я туды чагосьці не падмяшаў?

І пры гэтым яна казала, што нават калі і высветліцца, што масла няякаснае, то гэта ўсё адно не дасць мне права сцвярджаць, што мяне надурылі, бо для гэтага трэба праверыць кожны пачак масла ад гэтага вытворцы, а разавы брак, маўляў, можа здарыцца ў кожнага.

Па выніку ўзяць масла на экспертызу яна адмовілася. На заўвагі, што мы хочам праверыць менавіта гэтыя пачкі масла і не плануем вінаваціць вытворцу ў суцэльным падмане, жанчына зноў паўтарала, што не можа прыняць масла, бо ніхто не бачыў, як я купляў яго ў краме і ці не праводзіў я з ім ніякіх махінацый.

Апеляцыя да таго, што гэта проста бізнэс: я вам плачу (каля 2 мільёнаў, дарэчы), а вы — робіце экспертызу, таксама ні да чаго не прывялі.

Такім чынам, чалавек у нас ніяк не можа праверыць якасць малочнага прадукту. А гэта патрэбна, каб кантраляваць якасць.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Хто купляў самыя дарагія кватэры Беларусі ў 2015?

Самыя актыўныя на рынку **студэнткі, выкладчыцы і расіяне.**

Рынак нерухомасці перажывае спад. У снежні мінулага года цана сярэдняга метра кватэр у Мінску апусцілася да $1231. Гэта мінімальная лічба за апошнія дзевяць гадоў. У выніку самыя танныя кватэры ў спальных раёнах сталіцы ўжо прадаюцца за $30 тысяч.

Але пакуль адныя складаюць капейчыну да капейчыны і ўлазяць у крэдыты, іншыя могуць дазволіць сабе элітнае жыллё. Цана кватэры ў Мінску можа дасягаць $885 тысяч!

«Наша Ніва» склала рэйтынг самага дарагога жылля. Улічваліся ўгоды, зарэгістраваныя на працягу 2015 года. Большасць з іх здзяйснялася ў беларускіх рублях, тады мы пераводзілі гэтыя сумы ў даляры па афіцыйным курсе таго дня.


Сяргей Гудзілін

### Мінск

**1 і 2. Старажоўская, 6, «дом Чыжа»**

Лідарам рэйтынгу каторы год з'яўляецца «дом Чыжа» каля Траецкага прадмесця. Апошнія кватэры тут не распрададзеныя дагэтуль.

Самымі дарагімі сталі апартаменты за $885 тысяч. Фармальна гэта аднапакаёўка, але гіганцкая — больш за 320 м². Яе гаспадаром стаў 52-гадовы бізнэсовец, кампанія якога працуе ў сферы лагістыкі.

Крыху менш, каля 875 тысяч, каштавала іншая кватэра ў гэтым жа доме. Купец — кампанія «Агралізінг», якая падпарадкоўваецца «Белаграпрамбанку».

**3. Праспект Пераможцаў, 27, «Славянскі квартал»**

Рыэлтары адзначаюць, што ва ўмовах крызісу асноўнымі набыўцамі элітнай нерухомасці становяцца замежнікі — дарагія кватэры купляюць арабы, кітайцы і, вядома ж, расейцы.

Расійскі хакейны брамнік Мікалай Хабібулін нарадзіўся ў Екацярынбургу, але, калі пабраўся шлюбам з беларускай, зачасціў у Мінск. На яго рахунку амаль 800 гульняў у НХЛ — самым прэстыжным хакейным спаборніцтве свету. Калі ж Хабібулін выйграў Кубак Стэнлі, то прывёз трафей у Мінск. Дый дачка варатара, Аляксандра Хабібуліна, выступала ў тэнісных спаборніцтвах за Беларусь.

Чатырохпакаёўка ў новым доме «Славянскага квартала» каштавала 829 тысяч — па $5550 за квадратны метр.

**4. Праспект Пераможцаў, 57**

Дом каля гатэля «Вікторыя» быў пабудаваны яшчэ ў сярэдзіне 2000-х. Аднак кватэры ў ім дагэтуль карыстаюцца попытам, асабліва сярод перасяленцаў з усходняй часткі Украіны.

Упадабаў жыллё тут і беларускі мільянер Валер Шумскі, які цяпер мае расійскае грамадзянства. Пяціпакаёўка плошчай 210 м² дасталася яму за $740 тысяч.

Ураджэнец Вілейкі заснаваў «Юколу», якая ў 1990-я працавала ў аўтабізнэсе, а ў 2000-я пераключылася на пастаўку і перапрацоўку нафты. Сам Шумскі лічыцца калекцыянерам рэтрааўтамабіляў і музычных інструментаў. Ён жа яшчэ і відны праваслаўны мецэнат.


**Кватэра ў доме ў гістарычным цэнтры Гродна аказалася адной з самых дарагіх на захадзе краіны.**

**5. Філімонава, 20, «Аквамарын»**

$620 тысяч — столькі каштавала кватэра ў жылым комплексе «Аквамарын» расійскаму малавядомаму бізнэсоўцу з Рублёўкі. Ён абраў сабе сяміпакаёвыя апартаменты плошчай 170 м².

«Аквамарын» — праект будаўнічай кампаніі «Тапас», поспех якой звязваюць з асобай Паўла Белага, нападаючага хакейнай зборнай Аляксандра Лукашэнкі.

У Мінску пяцёрка самых дарагіх кватэр каштуе больш за 600 тысяч. У іншых рэгіёнах краіны цэны нашмат меншыя.

### Брэстчына

Самае дарагое жыллё было прададзенае не ў абласным цэнтры, а ў Пінску. Бізнэсовец з Хабараўска выкупіў адразу дзве трохпакаёўкі ў доме на вуліцы Брэсцкай. Цана выглядае завышанай — $210 тысяч за 57 м² і $90 тысяч за $62 м², хай і ў цэнтры горада.

У Брэсце ж самай дарагой кватэрай стала чатырохпакаёўка на вуліцы Маякоўскага. Набыла яе выкладчыца графікі ў каледжы, заплаціла $129 тысяч.

### Віцебшчына

Самым дарагім на поўначы Беларусі стаў дом на вуліцы Калініна, 16А. У гэтым навабудзе былі прададзеныя некалькі кватэр-рэкардсменаў.

Адна з іх, чатырохпакаёўка плошчай 152 м², дасталася пенсіянерцы з нафтавага Ханты-Мансійска. Грамадзянка Расіі заплаціла за жыллё $147 тысяч.

### Гомельшчына

Тут пераможцай рэйтынгу стала 22-гадовая студэнтка Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Нехта — найхутчэй, яе бацькі — за $151 тысячу набыў кватэру ў новым доме на вуліцы Сялянскай. А праз некалькі дзён падарыў дзяўчыне гэтую двухпакаёўку плошчай 99 м².

### Гродзеншчына

Самай дарагой у заходнім рэгіёне стала кватэра ў будынку на вуліцы Свярдлова ў Гродне (плошча 125 м²). Яе набыла выкладчыца рускай мовы ў адным з універсітэтаў горада — заплаціла $125 тысяч.

Ненашмат адстала цана іншай кватэры ў гістарычным цэнтры. За трохпакаёўку плошчай 72 м² на вуліцы Васілька пенсіянер-бізнэсовец з расійскага Комі заплаціў $120 тысяч.

### Магілёўшчына

Чатырохпакаёўка на вуліцы Ленінскай у Магілёве, проста за касцёлам, каштавала мясцоваму бізнэсоўцу $259 тысяч. Яе плошча — 122 м². Гаспадыняй стала ягоная 22-гадовая дачка, якая ўзначальвае турфірму.

### Міншчына

У Валер'янаве кватэры купляюць ажно за $340 тысяч. Але гэта прыгарад Мінска. Таму ўлічым толькі жыллё на адлегласці ад сталіцы.

Тады перамагае жыллё ў Жодзіне. Трохпакаёўка на праспекце Леніна каштавала новаму гаспадару $120 тысяч.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Дапамога на дзяцей павялічыцца на даляр

З 1 лютага вырас памер дэкрэтнай дапамогі. Сумы выплат будуць павялічаны на 16.800—21.500 рублёў у залежнасці ад віду дапамогі.

Дапамогі бацькам у дэкрэтным адпачынку пераглядаюцца раз на квартал.

### Лічбавыя білборды заменяць шчытавую рэкламу

Канцэпцыя развіцця вонкавай рэкламы ў Мінску прадугледжвае масавае ўкараненне святлодыёдных экранаў. Яны не патрабуюць і дадатковых затрат на мантаж і дэмантаж рэкламы, а таксама ўтылізацыю паперы.

### У Еўрасаюзе прапануюць адмяніць купюру 500 еўра

Кіраўнік еўрапейскага ведамства па барацьбе з махлярствам Джавані Кеслер не бачыць патрэбы ў існаванні такой купюры. Адмова ад буйной банкноты дазволіла б значна ўскладніць жыццё ашуканцам і карупцыянерам.

### Попыт на дзвярныя адмычкі

Беларусы атрымліваюць у паштовых адпраўленнях з-за мяжы дзвярныя адмычкі. «Увозяць з Кітая адмычкі. Дзіўна, наколькі прафесійныя наборы — можна адамкнуць любыя дзверы», — адзначыў старшыня Дзяржаўнага мытнага камітэта Юрый Сянько.

**ЯМ**

## «Таёта Карола» застаецца самым папулярным аўто ў свеце

У 2015 годзе «Таёта Карола» абнавіла сусветны рэкорд продажаў. Лічба склала 1,34 мільёна аўтамабіляў. За год яна вырасла амаль на 5%. Гэта дазваляе «Кароле» трэці год запар заставацца самым папулярным аўто ў свеце. Найбольшым попытам мадэль карыстаецца ў ЗША і Кітаі.

Другое месца па аб'ёме глабальных продажаў заняў «Фальксваген Гольф», продажы якога летась упершыню перавысілі 1 мільён машын.

Легендарны пікап «Форд *F-Series*» перадусім карыстаецца попытам у ЗША і Канадзе. Продажы ў гэтых краінах склалі 98% ад агульных 920 тысяч аўто.




У дзясятку самых прадаваных мадэляў таксама ўвайшлі «Форд Фокус», «Таёта Камры», «Хёндэ Элантра», «Фальксваген Пола», «Хонда CR-V», «Шэўрале Сільверада» і «Таёта RAV4».

# Гурт Napoli арганізаваў падтрымку на $5 тысяч, але Ivan'у налічылі яшчэ больш галасоў

Галасаванне падчас адбору на «Еўрабачанне» **закончылася скандалам.**

На «Еўрабачанне-2016» ад Беларусі паедзе маскоўскі спявак з беларускімі каранямі Аляксандр Іваноў, за якім стаіць высока ацэнены Лукашэнкам прадзюсар Віктар Дробыш.

Абіраць удзельніка «Еўрабачання» сёлета даверылі гледачам. Ніякага журы — проста званіце і дасылайце эсэмэскі. У выніку ў падтрымку малавядомага Іванова было пакінута больш за 23 тысячы галасоў!

Прадзюсар *Napoli* — гурту, які адстаў ад пераможцы на 700 галасоў, — расказаў, як адбывалася галасаванне.

«Я ад пачатку лічыў сістэму галасавання гледачоў няправільнай. Таму што ў дадзеным выпадку яно не можа быць аб'ектыўным. Галасуюць толькі сябры, знаёмыя і фанклубы, калі такія ёсць», — перакананы Аляксандр Слуцкі.

Разумеючы, што адвольныя слухачы не дапамогуць перамагчы, прадзюсар арганізаваў «групу падтрымкі».

«Мы паднялі ўсіх сяброў, знаёмых, сваякоў, фанаў *Napoli* і аб'ядналі іх адной ідэяй! ... Але мы аплацілі гэтую ідэю. І будзем аплачваць яшчэ доўга. Таму што, калі мы ўбачылі прамежкавыя вынікі, зваротнага шляху ўжо не было — і прасілі нашых родных працягваць галасаваць», — патлумачыў ён.

Агулам на рахунку *Napoli* аказалася каля 22400 галасоў. Кожны з іх каштаваў 4800 рублёў. Значыцца, агулам падтрымка гурту каштавала 107 мільёнаў рублёў. «У большасці цяпер на тэлефонных рахунках — мінус 1,5—2 мільёны», — прызнаецца Аляксандр Слуцкі.

«І ўсё дзеля чаго? — абураецца ён. — Каб прыйшоў такі вось таленавіты хлопчык з Масквы, лёгка выйграў адбор адкрыта купленымі ў выпадковых людзей галасамі і ўспрыняў сваю перамогу як мае быць? У нас некаторая колькасць галасоў фактычна таксама купленая, але людзьмі не выпадковымі, а ўсімі знаёмымі паміж сабой людзьмі, аб'яднанымі супольнай ідэяй!»

На фоне смс-бітвы паміж *Ivan*'ам і *Napoli* засталася па-за ўвагай яркая рэкламная кампанія гурту *Navi* (забаўна, калі прачытаць назву наадварот, то атрымаецца імя пераможцы).

Песня *Navi* была адзінай беларускамоўнай у фінале, і грамадзянская супольнасць арганізавала ёй бясплатную шырокую падтрымку. Гурт у выніку заняў чацвёртае месца, атрымаўшы больш за 5 тысяч галасоў.

«*Navi* былі нашы ад пачатку да канца... Але Беларусі гэта не трэба», — расчаравана адгукнулася спявачка Ганна Шаркунова. «На мой погляд, самае клёвае выступленне! Добра б лягло на вушы еўрапейскім заўзятарам. А яшчэ неймаверны пазітыў! *Navi* супер!» — салідарызаваўся тэлевядучы Дзяніс Кур'ян. І нават рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч у эфіры БТ адзначыў, што адправіў смс у падтрымку *Navi*.

«Мы задаволеныя сваім удзелам, бо мы хацелі апынуцца ў пяцёрцы найлепшых — і мы ў ёй. Для нас гэта цудоўны досвед і цудоўны піяр. Я не магу меркаваць, наколькі сумленны быў выбар. Для кагосьці ён быў відавочны ад пачатку. Ці сапраўды гэтую песню абралі тэлегледачы? Я не ведаю», — дыпламатычна падсумаваў саліст *Navi* Арцём Лук'яненка.



Navi былі адзінымі, хто спяваў пабеларуску




Napoli ўвязаўся ў смс-бітву, але прайграў

**Ці давяраеце Вы вынікам галасаванняў на БТ і АНТ?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 51 | 3% |
| Не | 1325 | 66% |
| Ярмошынай Лідзіі толькі веру | 608 | 31% |

Агулам пакінута 1990 галасоў

**Браніслаў Юрэвіч**

# Арыентаваны на Расію: пяць фактаў пра Ivan'а

Пратэжэ прадзюсара Віктара Дробыша паспрабуе скарыць Еўропу. «Наша Ніва» сабрала цікавыя факты з біяграфіі спевака.

### Выйшаў з гомельскай рок-тусоўкі

Аляксандр Іваноў (*Ivan*) нарадзіўся ў 1994 годзе ў Гомелі. Скончыў музычную школу па класе класічнай гітары. Ягоны бацька і брат таксама музыкі. Разам з братам Уладзімірам Аляксандр граў у гурце *Brown Velvet*, які выконваў дастаткова цяжкую музыку. «Гэта абсалютна некамерцыйная музыка», — казалі хлопцы. Спявалі выключна на англійскай мове. Аляксандр Іваноў казаў, што ніколі не пісаў вершаў ні на рускай, ні на беларускай мовах. Аднак у новым вобразе ён усё ж часцей спявае якраз на рускай.

«Я б сёння больш не пісаў такой музыкі, мне гэта ўжо нецікава. Я хачу новага, сучаснага. Канечне, гэта будзе рок, аднак відазменены», — казаў Аляксандр.

### Перамог у конкурсе ў акупаваным Крыме

Відазмененая група робіць стаўку на расійскі рынак, а не на Беларусь.

У чэрвені 2014 года Аляксандр Іваноў узяў удзел ва ўсерасійскім конкурсе маладых выканаўцаў «Пяць зорак», які праходзіў у Ялце. Прысутнічала ўсё кіраўніцтва акупаванага Крыма. У журы музычнага спаборніцтва ўваходзілі вядомыя ў расійскім шоу-бізе людзі: Іосіф Кабзон (ён абвяшчаў імя лаўрэата), Віктар Дробыш, Юрый Антонаў, Ірына Алеграва. Праз перамогу ў гэтым конкурсе Іваноў мусіў прадстаўляць Расію на міжнародным конкурсе «Інтэрбачанне», які, аднак, быў адменены ў апошні момант.

У расійскіх СМІ гэтую падзею падалі як тое, што ў Ялце «перамог рокер з Санкт-Пецярбурга». У той час ён жыў менавіта ў гэтым расійскім горадзе і ўдзельнічаў у гурце *Ivanov*.




Штаб Ivan'а пасля перамогі апублікаваў у сацыяльных сетках постар са словам «Белоруссія». Пасля карцінку выдалілі.

### Жыве ў Маскве

Другая значная перамога Аляксандра Іванова звязаная з праектам «Галоўная сцэна». Там ён выконваў песню вядомага расійскага попспевака Мікалая Наскова «А на меньшее я не согласен». Пасля гэтага на Іванова звярнулі ўвагу некалькі значных у Расіі прадзюсараў. Супрацу прапаноўваў Ігар Матвіенка, але выбар маладога беларуса паў на Віктара Дробыша.

«Думаю, што гэта самы таленавіты чалавек у сучасным шоу-бізе», — казаў пра яго Дробыш. Ягоная песня «Крест і любовь» вельмі хутка трапіла ў хіт-парад на «Рускім радыё».

Сам Аляксандр сёлета быў уганараваны тым, што 12 чэрвеня 2015 года выступаў пад сценамі Крамля на Дзень Расіі. Ён выканаў песню «Выбірай», дзе ёсць радок: «Важвацаць ці любіць — ты выбірай». Публіка ўспрыняла на ўра.

Цяпер Аляксандр Іваноў жыве ў Маскве. Менавіта ў Расіі адбываецца абсалютная большасць яго выступаў.

### Пасля таго як яго паслухаў Лукашэнка

Прапанова ўзяць удзел у адборы да «Еўрабачання-2016» паступіла Аляксандру Іванову пасля таго, як у кастрычніку ён узяў удзел у творчым вечары Віктара Дробыша на «Мінск-Арэне». У той вечар сярод гледачоў прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка, які ўручыў Дробышу ордэн Францішка Скарыны.

Іваноў кажа, што часу заставалася зусім нямнога, аднак яны паспелі напісаць песню для адбору. Ужо тады стала ясна, што Аляксандр Іваноў будзе галоўным фаварытам гэтага адбору.

Хаця сам Іваноў рашуча адкідваў меркаванні, што Дробыш можа дабівацца яго перамогі несумленным шляхам: «Гэта нам непатрэбна. Калі за нас прагаласуюць — значыць, прагаласуюць. Калі не — то не. Дурасцю было б нешта падстройваць, выйшаў бы нейкі самападман».

### Ушу і маляванне

Аляксандр Іваноў ніколі ніяк не выказваецца аб палітычных і грамадскіх з'явах. Усе ягоныя інтэрв'ю выключна аб музыцы і крыху пра сябе.

Напрыклад, ён расказваў, што захапляецца маляваннем. «Я часта думаю аб прыродзе, космасе, душы, нейкіх вышэйшых матэрыях. І для мяне момант малявання асацыюецца з своеасаблівым псіхааналізам, са сыходам у іншы свет, які існуе, але мы яго не бачым».

Яшчэ з біяграфіі ў біяграфію Аляксандра Іванова пераходзіць той факт, што ён займаецца ушу. Аднак сам спявак кажа, што ўзяў усяго пару заняткаў для мюзікла «Рамэа і Джульета».

**Зміцер Панкавец**

# Былая жонка Пуціна выйшла замуж за бізнэсмена, маладзейшага за сябе на 20 гадоў?

Расійскае выданне «Собеседнік» даведалася, што былая першая лэдзі Расіі Людміла Пуціна змяніла прозвішча.

Уладзімір і Людміла Пуціны абвясцілі аб сваім разводзе ў ліпені 2013 года, і пасля гэта жанчына з'явілася на публіцы толькі аднойчы.

Вясной 2014 года яна выступіла на цырымоніі ўручэння Горкаўскай літаратурнай прэміі. Гэтая прэмія заснаваная выдавецкім домам «Літаратурная вучоба» — даччынай кампаніяй Цэнтра развіцця міжасобасных камунікацый (ЦРМК). Узначальвае абедзве гэтыя структуры 37-гадовы Артур Ачарэтны.

Ад сярэдзіны 2000-х малодшая сястра Людмілы Пуцінай узначальвала кампанію «Інтэр'ерсэрвіс», блізкую да ЦРМК. Паводле дадзеных расійскага рэестра юрыдычных асобаў, з верасня 2014 заснавальнікам кампаніі стала Людміла Аляксандраўна Шкрабнёва.





Дзявочае прозвішча былой жонкі Пуціна — Шкрабнёва. Атрымліваецца, пасля разводу Пуціна вярнула сабе дзявочае прозвішча?

Аднак выглядае, што ў такім статусе яна была нядоўга.

У студзені 1995 года сям'я Пуціна стала ўладальніцай 139-метровай кватэры ў Санкт-Пецярбургу. Аднак праз тры гады пасля іх пераезду ў Маскву правы на нерухомасць былі пераафармлены на Кацярыну Шкрабнёву, цешчу Уладзіміра Пуціна.

Наступная змена ўласнікаў адбылася ўжо ў ліпені 2015-га. Па праве спадчыны кватэра перайшла да сястры Людмілы Пуцінай Вольгі Цамаевай, а ад яе па дамове куплі-продажу — да Людмілы Аляксандраўны... Ачарэтнай.

У выпісцы з рэестра месца і дата нараджэння Ачарэтнай супадаюць з дадзенымі Людмілы Аляксандраўны Пуцінай.

Артур Ачарэтны не стаў адказваць на пісьмовы запыт наконт свайго магчымага шлюбу.

## У Мінску каля вакзала адкрылі кафэ-бістро «Маэстра» ў нацыянальным стылі

Летась падчас візіту ў аздараўленчы цэнтр «Сасновая» Аляксандр Лукашэнка заявіў пра тое, што трэба развіваць у краіне сетку беларускай кухні.

Сетка крамаў «Радзівілаўскі», якая належыць дзяржаве, адкрыла кафэ-бістро «Маэстра», дзе меню складаецца толькі са страў беларускай кухні. Кафэ-бістро размясцілася ў будынку факультэта міжнародных адносін БДУ каля чыгуначнага вакзала.

Пакуль што ў бістро 48 пасадкавых месцаў. Калі бізнэс будзе развівацца, то плануецца пашырыць колькасць месцаў да 100. Само кафэ-бістро афармленае ў нацыянальным стылі.

Асартымент у «Маэстра» нагадвае невялікае «Лідо». У меню ёсць і халодныя закускі і салаты, першыя і другія стравы, гарніры, торты і марозіва, кава, гарбата і алкагольныя напоі.

**Халодныя закускі**

У асноўным порцыі па 150 грам. Ёсць селядзец «пад футрам», салаты з птушкі з грыбамі, салаты з вяндлінай, таксама ёсць і салаты, у складніках якіх няма мяса. Цэны вагаюцца ад 10 да 34 тысяч.

**Першыя стравы**

У наяўнасці ёсць тры віды супу: суп са свежай капусты за 14 800, суп хатні за 16 700 і суп пярловы з грыбамі за 10 700. І гэта за трыста грам.

**Другія стравы**

Другія стравы складаюцца з 13 пазіцый. Ёсць свініна з грыбамі і памідорамі, ёсць і дранікі за 21 500 (4 штукі), асобна ёсць дранікі з морквай за 16 800 (3 штукі). Ёсць знакамітая беларуская катлета «Папараць-кветка». Шмат фірмовых катлет. Таксама можна пакаштаваць рыбу па-беларуску за 27 200. Цэны на мясныя вырабы вагаюцца ад 15 да 35 тысяч.

**Гарніры**

На выбар ёсць 5 відаў гарніраў. Рыс з гароднінай за 15 800, каша грэчневая за 6 400, нават бульба-фры за 25 000, макароны адварныя з грыбамі за 10 300 і бульба смажаная з мясам за 16 200. Адна порцыя — 200 грам.

Каву можна самому зрабіць з кавамашыны, а можна замовіць нешта асаблівае з кававай карты. З гарбатай усё гэтаксама.

Алкаголь збольшага беларускай вытворчасці: тэкіла, віскі, каньяк, самагонка, ром і, вядома, піва.

Цяжка сказаць, ці зможа дзяржаўнае бістро канкураваць з тым жа «Макдональдсам», які знаходзіцца праз дарогу. З іншага боку, цэны даволі дэмакратычныя, таму студэнтам танней будзе харчавацца тут.

**Мікіта Недаверкаў**






**На адкрыцці прысутнічалі (злева направа): Андрэй Мельнікаў, дырэктар сеткі крамаў «Радзівілаўскі»; Андрэй Дамарацкі, намеснік старшыні гарвыканкама; Сяргей Барысевіч, кіраўнік галоўнага ўпраўлення спажывецкіх рынкаў Мінгарвыканкама; Віктар Равіна, намеснік кіраўніка службы грамадскага харчавання.**





## Фотаздымак адной бульбіны на чорным фоне прадалі за мільён еўра

Летась звышпаспяховы амерыканскі камерцыйны фатограф Кевін Абош прадаў свой фотаздымак адной бульбіны на чорным фоне за 1 мільён еўра, пра гэта піша *Business Insider*.

Гэткі высокі кошт фотаздымка тлумачыцца паспяховасцю фатографа ў камерцыйных колах. Асаблівасцю здымкаў Кевіна лічыцца чорны фон, а сам фатограф за партрэт у такім стылі просіць ад 150 да 500 тысяч даляраў. За сваю кар'еру Кевін Абош сфатаграфаваў усіх топ-менеджараў ІТ-індустрыі і зорак шоу-бізнэсу.

**На сэрцы**

### Як прыйшоў анёл ды сказаў: «Здароў, Марыя»



Гэтую гісторыю я пачуў мімаходзь у сваім дзяцінстве. Памятаю, што дарослыя акурат размаўлялі пра сваё, а я прыбег, каб нешта схапіць са стала ды ляцець далей па сваіх дзіцячых справах. Усе неяк прыціхлі ды слухалі нашую куму Ядзю — мажную, але добрую жанчыну. Мне ўдалося сцягнуць сыр ды кілбасу з талеркі, але я не адышоў, застаўся, каб таксама паслухаць.

— Мне трэба было ў школу ісці ў першы клас, — расказвала кума Ядзя, і нейкая невымоўная шчырасць ішла з ейных словаў, што амаль змушала стаяць ды слухаць. — А тады пачатковая школа была ў Маствілішках. І мама надта хацела, каб я перад школай паспавядалася. А нідзе ж ксяндзоў не было, бо гэта, можа, якія 60-я гады яшчэ былі. Загадала мама, каб бацька запрог каня ў драбіны, і мы паехалі ўсе разам у Вішнева, бо там на ўсю ваколіцу ці не адзін ксёндз быў, да якога бальшавікі не дабраліся. Выехалі мы самай раніцай, яшчэ цёмна было, бо не так і блізка — з-пад самай Ашмяны аж у Вішнева. Я, малая, дык і задрамала ў возе. Прыехалі ў касцёл, а там цёмна, пуста, нікога няма, адзін той ксёндз у спавядніцы сядзіць і нешта чытае. Мама мяне завяла да яго. «Ойчанька», — усё да яго гаварыла, а як адыходзіла, то руку пацалавала. І я ўжо мусіла спавядацца, але баюся, неяк страшна зрабілася — холадна, гулка ў тым касцёле. А ксёндз будзе ў мяне пытацца: «А ці ўмееш ты маліцца?» Я зусім яшчэ малая была, але мама мяне была навучыўшы пацеры па-польску гаварыць. Я і кажу ксяндзу, што ўмею. Тады ён просіць, каб я памалілася. Я і кажу гэтак, як ад мамы ведала: «Здровась, Марыё, ласкі пэлна...» А ксёндз будзе пытацца: «А што такое «Здровась, Марыё?» Адкуль жа я, дзіцё, магла ведаць. От, на памяць пацеры была вывучыўшы, а ніхто мне не тлумачыў, што там яны значаць. Я давай тады плакаць, вядома, з вёскі прыехаўшы, цёмная бутэлька, і тых ксяндзоў ніколі не бачыўшы. А ксёндз будзе казаць: «Здровась, Марыё» — гэта «Здароў, Марыя». Гэта быў да Марыі анёл прыйшоўшы і як у хату ўвайшоў, то гэтак да яе і сказаў: «Здароў, Марыя, народзіш Сына Божага». І пытаецца ксёндз у мяне: «А як ваш сусед ці суседка гавораць, як тваіх бацькоў спаткаюць на дарозе ці як у хату прыйдуць? Ці не здароў?» — «Здароў», — я ўжо яму адказваю і галавой ківаю. От, і ўся споведзь была. Ужо як дахаты ехалі, то я сабе думала: каб гэта да каго ў Маствілішкі анёл прыйшоў, то яго б, пэўна, да стала пасадзілі. Ён жа, мусіць, мачанку з блінамі еў бы, галубцы, бульбу тоўчаную. Ды і павінен жа анёл умець па-нашаму: «Здароў, Ядзя. Што чуваць у цябе? Ці ўсё добра?»

Кумы Ядзі ўжо даўно няма, але гэты ейны расповед мне надоўга запомніўся. Толькі пазней я даведаўся, што той вішнеўскі ксёндз — гэта Уладзіслаў Чарняўскі, бадай, адзіны святар, які яшчэ пры Савецкім Саюзе маліўся па-беларуску. Гэтымі днямі ў Вішневе адчынілі музей у ягоны гонар, а мне ўсё з галавы не ідзе той анёл, пра якога расказвала нашая кума. І я ўжо сам, як некалі малая дзяўчынка з Маствілішак, уяўляю анёла з вялікімі крыламі. «Здароў, што чуваць у цябе?» — пытае анёл.

**Віктар Шукеловіч, Жупраны**

# «Человек — пі…ец пріроды»: выйшла кніга прозы і паэзіі старшыні БТРК Генадзя Давыдзькі

При канцы года мінскае выдавецтва «Кніжны дом» выпусціла кнігу вершаў, мініяцюр і фраз старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзя Давыдзькі. Кніга «Лов слов» выйшла накладам 525 экзэмпляраў.

Газета «Советская Белоруссія» ў рэцэнзіі на кнігу адзначала, што Генадзь Давыдзька адкрывае ў сабе «новыя грані таленту».

«Наша Ніва» таксама знайшла пад цвёрдай вокладкай «Лова слов» шмат цікавага. Пачнём з паэзіі.

**Верш «Пёс»**

Он выгуливает пса. Чудеса!
Пес по скверику несется!
Рад он воздуху и солнцу!
В лужу, травку и песок
Прыг да скок, прыг да скок!..
Шерсть отряхивает рьяно —
Брызги словно из фонтана.
Пес полаял на лягушку,
Облизал подол старушки.
Он за кошкою гонялся,
Перед сукой унижался.
Он подрался, помирился,






На него хозяин злился,
Стукнул по уху его.
Псу не больно, ничего!
Он не то готов стерпеть,
Только б дома не сидеть
В душной маленькой квартире
Между кухней и сортиром
На девятом этаже
Иль в хозяйском гараже,
Где бензины и резины,
Банки, тряпки и корзины…
«О, хозяин, я так рад!
Не смотри на циферблат!»
Но прогулки срок отмерен,
Пес бредет послушно к двери.
Против власти не попрешь…
Как на нас он всех похож!

Узгадваюцца ў яго паэзіі і даволі пазнавальныя персанажы:

«Тихо движется планета,
Замер в страхе мир иной.
Встал хирург над пациентом,
Как Григорич над страной…
И как глянул на страдальца,
Как усами шевельнул!..
Куры вздрогнули на яйцах,
И Всевышний взял отгул».

Калі казаць у цэлым, то ў кнізе мноства выдатных рыфмаў і вобразаў: «долго будут помнить зайцы проктологические пальцы», «нагнись к навозной куче — пойми, что ты не лучше», «бросать и начинать. Устать и глупость написать», «нет ни мух, ни тараканов, пусто в сердце и в стакане».

Сапраўдныя шэдэўры сустракаюцца ў раздзеле «Мініяцюры».

Чаго варты хаця б гэты ўрывак: «Я хотел бы быть мощным джипом. И чтобы дикая от жажды жить красавица держала меня за баранку, а я упругой кожей своего сиденья обнимал бы сзади ее бедра. Чтобы она трогала мой клаксон, и я бы отзывался бархатным ревом прирученного монстра».

Апошні раздзел кнігі мае назву «Фразы». Давыдзька ў прадмове да яго піша, што збіраў гэтыя цытаты шмат гадоў. «У нейкі момант яны здаюцца дасціпнымі ці «тонка прыкмечанымі», штосьці смешным». Прапануем некалькі з іх увазе чытачоў «Нашай Нівы».

**Зміцер Панкавец**

## Афарызмы, якія кіраўнік дзяржаўнага тэлебачання палічыў патрэбным уключыць у кнігу

Чалавек не вянец, а пі...ец прыроды.

Калі ты за цэлы дзень нічога новага не адкрыў, то ўвечары адкрый хоць бы бутэльку гарэлкі.

Сэкс пасля пяцідзесяці цудоўны. Ён і пасля ста вельмі нават магчымы. А ў некаторых нават пасля літра.

У роце пахла печанню. Дрэнна, што ўласнай.

Групавы танец жывата — выхад урада.

Вінегрэт зрабіў сваю справу. Вінегрэт можа выходзіць.

Лепш мець моцны жаночы пачатак, чым слабы мужчынскі канец.

Я буду тваім ўсёмагутным джынам, толькі патры маю лямпу.

Удалае супадзенне для камандзіраванага: у яго скончыліся сутачныя, а ў яе пачаліся месячныя.

Жыццё можна падзяліць і на тры этапы: як бы выпіць, як бы не піць, навошта піў?

## У Мінску прэзентавалі «антыкрызісны» расійскі седан Lada Vesta

На адкрыцці прысутнічалі пераважна мужчыны сярэдняга веку. Для іх было падрыхтавана некалькі прэзентацый, паказалі нават відэа, як сам генеральны дырэктар «Лады» Бу Андэрсан тэстуе новае аўто.

Тэхнічныя характарыстыкі Lada Vesta:
бензінавы рухавік аб'ёмам 1,6 л. (106 к.с.)
разгон да 100 км/г залежыць ад каробкі перадач (на механічнай — 11.8, 12.8 — на аўтаматычнай)
максімальная хуткасць — 178 км/г
расход паліва — 5,5 л. 100 км (на АКП — 5,3 л.)
пярэдні прывад
пярэдняе папярочнае размяшчэнне рухавіка
дарожны прасвет — 178 мм
аб'ём паліўнага бака — 55 л.
У базавую камплектацыю ўваходзіць:
супрацьзаносная сістэма ESC
супрацьбуксавая сістэма TCS
сістэма дапамогі пры старце на пад'ёме HSA
асістэнт паркоўкі
рулявая калонка, што рэгулюецца ў дзвюх плоскасцях
аўдыёсістэма
сядзенне кіроўцы з рэгуліроўкай па вышыні
цэнтральны замок з пультам дыстанцыйнага кіравання ў раскладным ключы
бартавы камп'ютар
сігналізацыя
калёсныя дыскі 15 з запасным колам
і інш.

У базавай камплектацыі новы седан будзе каштаваць 155 мільёнаў рублёў, што сёння ўжо складае 7 тысяч даляраў.

**Мікіта Недаверкаў**




**Кіно**

## Цуда-швабра ў вялікім бізнэсе

Джой
**Жанр:** драма, камедыя
**Рэжысёр:** Дэвід О. Расэл
**У ролях:** Джэніфер Лоўрэнс, Роберт Дэ Ніра, Брэдлі Купер, Эдгар Рамірэс, Даян Лэд, Вірджынія Мэдсан, Ізабэла Раселіні
ЗША, 124 хв.
**Адзнака:** 8

З маленства Джой марыла ствараць незвычайныя і карысныя рэчы, аднак яе дарослае жыццё склалася інакш. Яна жыве ў старым доме разам з двума дзецьмі, былым мужам, маці і бацькам, які вядзе свой непрыбытковы бізнэс. Яна ўся ў даўгах, дом закладзены, а цяпер Джой вымушаная яшчэ і кінуць працу. Але яна бярэ сябе ў рукі і вынаходзіць самавыціскальную супершвабру. Яна гатовая прыкласці ўсе намаганні, каб прабіцца ў жорсткі свет бізнэсу.

У аснове сюжэта ляжыць рэальная гісторыя вынаходніцы Джой Мангана. Амерыканка італьянскага паходжання з моцнай дзелавой хваткай атрымала вядомасць дзякуючы сваім цудашвабрам і вешалкам. Мангана з'яўляецца прэзідэнтам кампаніі *Ingenious Designs.* Яна рэгулярна з'яўляецца ў телекраме на канале *HSN*.

У выніку Джой запатэнтавала больш за сто вынаходніцтваў, але ў фільме паказаны пачатак яе няпростага шляху да поспеху. Вымушаная ўтрымліваць усю сям'ю, Джой на краі адчаю звяртаецца да свайго дару. Яе вынаходніцтвы не маюць глабальнага характару — гэта простыя побытавыя рэчы, карысныя для хатняй гаспадаркі. Трагізм сітуацыі выяўляецца ў тым, што блізкія і родныя людзі, якія павінны падтрымліваць у складанай сітуацыі, не толькі не дапамагаюць Джой, але і ствараюць новыя праблемы.

Ролю вынаходніцы выканала Джэніфер Лоўрэнс (франшыза «Галодныя гульні»). Цікава, што тая самая супершвабра была вынайдзена Джой у 1990. У гэтым жа годзе нарадзілася Джэніфер Лоўрэнс. На ролю мужа Джой быў узяты Брэдлі Купер.

Рэжысёрам стужкі стаў Дэвід Расэл, які ўжо здымаў Брэдлі Купера і Джэніфер Лоўрэнс у сваіх фільмах «Мой хлопец — псіх» (2012, «Оскар» за найлепшую жаночую ролю), «Афёра паамерыканску» (2013). Гэта чацвёртая супольная праца акцёраў.




Здымкі праходзілі ў Бостане і часткова ў Хейверхіле. У ліпені 2015 дзелавы цэнтр Хейверхіла быў ператвораны ў Далас 1980-х.

Акцёрская праца Лоўрэнс не засталася без увагі і высока ацэненая кінакрытыкамі. Яна атрымала нямала амерыканскіх узнагарод. Найперш гэта прэстыжныя «Залаты глобус» за найлепшую жаночую ролю (камедыя ці мюзікл), а таксама намінацыя на «Оскар-2016».

**Настасся Уласава**

# З «Валадаркі» вызвалілі расіяніна, прысуджанага да смяротнага пакарання ў Эміратах

Ён пазбег экстрадыцыі, бо «не паступілі дакументы».

Грамадзянін Расіі Пётр Іванік, які знаходзіўся ў камеры смяротнікаў СІЗА №1 Мінска, вызвалены з-пад варты, паведамілі ў Генеральнай пракуратуры Беларусі.

Паводле слоў начальніка міжнародна-прававога аддзела Алега Хлышчэнкі, у вызначаны законам тэрмін у Генпракуратуру не паступілі дакументы з Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў на выдачу асуджанага. У сувязі з гэтым 16 студзеня Іваніка выпусцілі на волю.

Нагадаем, у снежні 2011 года шарыяцкі суд эмірата Шарджа ААЭ прызнаў Пятра Іваніка і яго бізнэс-партнёра Аляксея Янчука ўдзельнікамі забойства свайго кампаньёна з Чэлябінска Яўгена Хапрова і завочна вынес ім смяротны прысуд.

Хапроў, Янчук і Іванік з'яўляліся заснавальнікамі кампаніі AVIA, якая займалася грузапасажырскімі авіяперавозкамі. Як паведамлялі расійскія СМІ, партнёры сталі падазраваць Янчука ў растраце 3,2 млн даляраў, што неўзабаве пацвердзіла аўдытарская праверка. У выніку яму давялося перадаць партнёрам сваю долю ў кампаніі. У сакавіку 2009 года невядомыя выкралі Хапрова з яго дома і вывезлі ў невядомым кірунку. Пазней бізнэсмена знайшлі забітым ва ўласнай машыне.

Шарыяцкі суд палічыў віну Янчука і яго памочніка Іваніка даказанай. Паколькі ў ААЭ няма падзелу на замоўцаў і выканаўцаў забойства, абодва прызнаныя ўдзельнікамі злачынства. Непасрэдных кілераў, якія ўварваліся ў дом бізнэсмена, следства так і не адшукала.

Доўгі час месцазнаходжанне Янчука і Іваніка было невядомае. Пазней з'явілася інфармацыя, што Янчук, магчыма, мае правы на жыхарства ў Германіі, а Іванік апынуўся ў мінскім СІЗА.

У пасольстве Расіі паведамілі, што адвакат рэгулярна наведваў Іваніка ў следчым ізалятары. Консульскі аддзел уважліва сачыў за лёсам асуджанага.

У выпадку экстрадыцыі ў ААЭ Іваніка маглі расстраляць, як гэта прадугледжана крымінальным заканадаўствам Эміратаў адносна асуджаных да смяротнага пакарання.

УШ

## Злодзей, які хацеў стаць бацькам

Сталічная міліцыя затрымала 35-гадовага ўраджэнца Гомеля па падазрэнні ў крадзяжы буйной сумы грошай і ювелірных упрыгожванняў у сваячкі з Мінска. Мужчына растлумачыў, што грошы былі патрэбныя для аплаты працэдуры экстракарпаральнага апладнення (ЭКА).

У канцы снежня пацярпелая разам з дачкой выправілася ў Гомель да сваякоў. Там у яе прапалі ключы ад кватэры, а пасля вяртання дадому яна не знайшла 14 тысяч даляраў, 1000 еўра і некалькі ювелірных упрыгожванняў. У крадзяжы западозрылі мужа пляменніцы. Пазней высветлілася, што ён выкраў ключы, пасля чаго на сваім аўтамабілі паехаў у Мінск і абрабаваў кватэру.

У дачыненні да гамельчука распачата крымінальная справа за крадзеж. Зламысніку пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

УШ

## У Гродне шукаюць жанчыну, якая крала банкаўскія карткі

Раніцай 23 снежня, між 07:40 і 08:45, невядомая трапіла праз незачыненыя дзверы ў кабінет загадчыцы «Ясляў-сада №9» Гродна па вул. Церашковай, 27. Агледзеўшыся, яна выкрала кашалёк загадчыцы, у якім было 70 тысяч рублёў, дакументы і дзве банкаўскія карткі. Пасля зламысніца спрабавала зняць грошы з карт-рахунку загадчыцы, аднак не давяла намер да канца.

Аналагічнае злачынства было здзейснена ў Гродне 13 студзеня ў будынку «Ясляў-сада №67» па пр. Будаўнікоў, 7. Трапіўшы ў кабінет загадчыцы, зноў жа праз



незачыненыя дзверы, зламысніца выкрала кашалёк. У ім было 100 тысяч рублёў, банкаўская картка і напісаны на аркушы паперы ПІН-код. Маючы код доступу, выкрадальніца зняла з картрахунку пацярпелай 5 млн 800 тысяч рублёў.

Прагледзеўшы відэазапісы з камер назірання банкаматаў, следчыя высветлілі, што да абодвух злачынстваў мае дачыненне адна і тая ж жанчына (на фота), асоба якой цяпер высвятляецца.

Калі вы маеце інфармацыю аб гэтай жанчыне або іншыя звесткі, якія могуць дапамагчы следству, гэта можна зрабіць па тэлефонах: 8 (0152) 72-41-76, 72-40-40 або 102.

УШ



## Кіроўца памёр за стырном і ледзь не «забраў» з сабой пешаходаў

У Горках 24 студзеня 58-гадовы кіроўца «ГАЗа» раптоўна памёр падчас руху — як мяркуецца, ад інфаркту. Грузавік збіў дваіх пешаходаў і ўрэзаўся ў дрэва.

Пешаходы — 43-гадовы мужчына і 46-гадовая жанчына — ішлі па ўзбочыне ў спадарожным кірунку. З пераломамі касцей таза іх шпіталізавалі.

Грузавік належаў Горацкаму хлебазаводу і развозіў хлеб.

УШ

## Страшнае ДТЗ на трасе М8

Аварыя адбылася 22 студзеня каля першай гадзіны ночы ў Аршанскім раёне, на 135 км трасы М8 Віцебск—Гомель—мяжа Украіны.

48-гадовы жыхар аграгарадка Расна Магілёўскай вобласці за стырном «Рэно Дастэр» выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з дзвюма аўтамашынамі, «Опелем» і «Нісанам».

Кіроўца «Рэно» загінуў на месцы. Яго цела, заблакаванае ў салоне машыны, змаглі дастаць толькі ратавальнікі.

Таксама ў «Рэно» ехалі тры пасажыры: 18-гадовая дзяўчына, яе 42-гадовая маці і 17-гадовы хлопец. Усе яны атрымалі траўмы і былі шпіталізаваны ў рэанімацыю. Праз некалькі гадзін дзяўчына памерла. Двое іншых пацярпелых застаюцца ў рэанімацыі ў непрытомным стане.

Кіроўцу «Опеля» аказалі дапамогу медыкі, ён адпушчаны дадому. Кіроўца «Нісана» не пацярпеў.

Вядзецца следства, высвятляюцца падрабязнасці.

УШ

## Педафіл заваблівай дзяцей цукеркамі і бясплатным інтэрнэтам

У Мінску па падазрэнні ў здзяйсненні распусных дзеянняў у дачыненні да малалетніх затрыманы мужчына. Злавіць яго дапамаглі бацькі двух дзесяцігадовых хлопчыкаў. Яны звярнуліся ў аператыўна-дзяжурную службу Кастрычніцкага РУУС сталіцы і паведамілі, што ў іх дзяцей на мабільных тэлефонах маюцца фота- і відэаматэрыялы інтымнага характару з удзелам непаўналетніх.

Супрацоўнікі аддзялення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі хутка высветлілі асобу 40-гадовага мінчука, які запрашаў дзяцей да сябе дадому і здзяйсняў распусныя дзеянні. Каб завабіць малых да сябе, ён абяцаў ім цукеркі, казаў, што можна будзе скарыстацца бясплатным інтэрнэтам. Але замест гэтага, казалі хлопчыкі, дэманстраваў парнаграфічныя фота і відэа. Затым зламыснік распранаўся, дэманстраваў свае геніталіі і прапаноўваў легчы з ім у ложак.

Мужчына быў затрыманы па месцы жыхарства ў Кастрычніцкім раёне сталіцы.

У дачыненні да яго Следчы камітэт распачаў крымінальныя справы за распусныя дзеянні і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў. Мужчыну пагражае да 6 гадоў пазбаўлення волі.

УШ

## Кот «здаў» браканьераў

У браканьерстве падазраюцца двое братоў з вёскі Пратасевічы Асіповіцкага раёна. Мужчыны незаконна падстрэлілі як мінімум двух дзікоў. А «здаў» парушальнікаў інспектарам гаспадарскі кот.

Браканьераў злавілі па гарачых слядах. З месца незаконнага палявання інспектары па ахове жывёльнага свету ішлі па адбітках аўтамабільных шын. Яны прывялі ў бліжэйшую вёску. Каля аднаго з дамоў заўважылі ката, на пысе якога былі плямы свежай крыві. Побач быў прыпаркаваны і ўазік, які пакідаў тыя адбіткі шын у лесе.

На падворку дзяржінспектары пабачылі свежыя парэшткі двух дзікоў. Пазней, падчас вобшуку, выявілі скуры яшчэ чатырох дзікоў, а таксама галаву і ногі казулі (зараз высвятляюць, ці мелі браты ліцэнзію на яе адстрэл). Адзін з браканьераў схаваўся на гарышчы гаража, не паспеўшы нават вымыць скрываўленыя рукі.

У парушальнікаў канфіскавалі 130 кг дзічыны і тры паляўнічыя стрэльбы. А таксама 240 бутэлек кантрафактнай гарэлкі. Асіповіцкі раённы аддзел Следчага камітэта пачаў крымінальную справу.

УШ

### Сціісла

**Знайшлі труп**

У лесе недалёка ад горада Свіслач знайшлі цела жанчыны. Яе асобу высветлілі — жанчыне было 32 гады, яна нідзе не працавала і мела праблемы з алкаголем. Міліцыя мяркуе, што жанчыну забілі, ужо затрыманы падазраваны.

**Не даехалі**

Сям'я беларускіх заўзятараў трапіла ў ДТЗ па дарозе на чэмпіянат Еўропы па гандболе, які праходзіць у польскім Катавіцэ. Бацька і сын шпіталізаваныя, маці — загінула.

**Забіла мужа ў ДТЗ**

У Кобрынскім раёне п'яная жанчына-кіроўца з'ехала ў кювет, машына перакулілася. Яе муж ад атрыманых траўмаў сканаў на месцы.

**Сарвалася бервяно**

На Навасвержанскім лесазаводзе ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці загінуў 43-гадовы аператар лініі па распілоўцы драўніны — на яго сарвалася бервяно. Праводзіцца праверка.

**П'яны гоншчык**

У Брэсце п'яны кіроўца двойчы за вечар трапіў у ДТЗ і ўцёк. Яго затрымалі. Высветлілася, што мужчына быў пазбаўлены права кіравання якраз за знаходжанне за стырном «пад мухай».

**Не хацеў спыняцца**

У Барысаве п'яны кіроўца збіў даішніка, які спрабаваў яго спыніць. У міліцыянта — страсенне мазгоў і зламаная рука. 22-гадовага кіроўцу затрымалі, яму пагражае да 6 гадоў зняволення.

УШ

# 17-гадовыя забілі 25-гадовага. 68 удараў

«Ён абразіў нашу кампанію».

Трагедыя здарылася 25 мая мінулага года ў горадзе Белаазёрску Брэсцкай вобласці. Па версіі абвінавачвання, трое навучэнцаў мясцовага каледжа збілі 25-гадовага хлопца на вуліцы. 68 удараў нанеслі яны яму нагамі і рукамі. Затым маладыя людзі ўцяклі. А пацярпелы памёр у бальніцы.

Спачатку на падлеткаў завялі крымінальную справу за наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання, што пацягнула па неасцярожнасці смерць. Пазней артыкул змянілі на горшы — забойства з асаблівай жорсткасцю, з хуліганскіх памкненняў.

Двум абвінавачаным — па 17 гадоў, трэцяму — 16. Усе вучыліся на першым курсе Белаазёрскага каледжа. З трох абвінавачаных у судзе пагадзіўся выступіць толькі 17-гадовы Сяргей. У мінулым у дачыненні да юнака ўжо распачыналася крымінальная справа за хуліганства, але была спыненая ў сувязі з прымірэннем бакоў. На той момант Сяргей вучыўся ў каледжы ў Брэсце. Пасля таго, што адбылося, яму прапанавалі забраць дакументы з навучальнай установы. Так Сяргей і апынуўся ў Белаазёрску, дзе паступіў на першы курс мясцовага каледжа. Там і пазнаёміўся з Вадзімам і Міхаілам.

На судзе юнак паведаміў, што 25 мая раніцай ён з сябрамі быў на парах. Каля 13.00 яны скончылі навучанне і пайшлі гуляць. Потым сустрэлі дзяўчат, гулялі ў карты. Бліжэй да вечара да кампаніі падышоў п'яны хлопец.

«Папрасіў закурыць і грошай. Мы яму сказалі, што грошай няма. Цыгарэты яму ніхто не даваў. Ён пару метраў адышоў і сказаў мацернае слова, абазваў нас», — сцвярджае Сяргей.

Кампанія на абразу адрэагавала агрэсіўна. Трое юнакоў усталі і пайшлі ў бок хлопца. Той пачаў уцякаць. Хлопцы пабеглі за ім. Дагналі.

«Не ведаю, што на мяне найшло, я яго ўдарыў. Ён упаў», — узгадвае Сяргей.

Затым падбеглі яшчэ двое абвінавачаных, Уладзімір і Міхаіл, якія таксама нанеслі ўдары пацярпеламу. Пасля жорсткага збіцця трое юнакоў уцяклі.

«Ён абразіў нашу кампанію», — патлумачыў Сяргей свае матывы, дадаўшы, што не хацеў пазбаўляць пацярпелага жыцця.

На наступны дзень сябры сустрэліся ў каледжы. Знаёмы Сяргея патэлефанаваў яму і сказаў, што збіты напярэдадні мінак памёр у бальніцы. Сябры дамовіліся маўчаць пра здарэнне і казаць, што ў той вечар яны гулялі ў футбол. Але неўзабаве іх затрымалі. «Футбольная» версія была аспрэчаная паказаннямі сведак, якія адпачывалі з імі ў дзень трагедыі.



Загінулы 25-гадовы Мікалай жыў з бацькам і маці ў аднапакаёвай кватэры. Цікава, што ў мінулым ён прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за тое самае, за што судзяць яго забойцаў. Мікалай таксама збіў мужчыну-бесхацінца, які затым памёр. Адседзеў належны тэрмін, вярнуўся дадому, знайшоў дзяўчыну, з якой збіраўся ажаніцца. Першы час працаваў цесляром у прыватнай фірме, але за два тыдні да гібелі яго скарацілі. Мужчына перыядычна выпіваў. У маі мінулага года ён сарваўся пасля 16 месяцаў цвярозасці і запіў.

25 мая Мікалай выйшаў раніцай з хаты па справах. Бліжэй да вечара бацька сустрэў яго каля крамы «Чабурашка». Бацька сцвярджае, што сын быў цвярозы. Праўда, экспертыза паказала, што ў той вечар малады чалавек сапраўды добра выпіў: у яго крыві ўтрымлівалася 3,3 праміле алкаголю.

Мікалай вярнуўся дадому праз дзве гадзіны, збіты. Выклікалі хуткую. Але, нягледзячы на ўсе высілкі лекараў, ад закрытай чэрапна-мазгавой траўмы і кровазліцця ў мозг ён памёр у бальніцы.

Абвінавачаным хлопцам пагражае 12 гадоў пазбаўлення волі. Сваю віну яны прызнаюць часткова: не згодныя з кольнасцю ўдараў, якую ім ставяць у віну, і настойваюць, што ў іх не было змовы і намеру забіваць хлопца. Разгляд крымінальнай справы працягнецца ў Брэсцкім абласным судзе.

**УШ**

# Каханне прывяло ў турму

Расіянін спрабаваў незаконна перайсці беларускую мяжу, каб у Літве **сустрэцца з дзяўчынай**.

Смаргонскія памежнікі затрымалі грамадзяніна Расеі за тры кіламетры ад беларуска-літоўскай мяжы. Ім аказаўся 17-гадовы жыхар Новасібірскай вобласці.

Маладога чалавека заселі мясцовыя жыхары, яны і сігналізавалі пра незнаёмца памежнікам. Хлопец ішоў удалечыні ад ажыўленых трас і стараўся не набліжацца да пунктаў пропуску.

Затрымалі юнака ў раёне пасёлка Кулешы. Хлопец не стаў адмаўляць, што шукае дарогі праз граніцу, але растлумачыў, што накіроўваўся да каханай дзяўчыны, якая жыве ў Літве.

Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання Смаргонскай памежнай групы, паведамілі ў Дзяржпагранкамітэце.

**УШ**

# Мінская школьніца збегла ад бацькоў, баючыся вяселля

Мінская школьніца збегла ад бацькоў, спалохаўшыся меркаванага вяселля, паведаміла прэс-афіцэр Маскоўскага РУУС Аксана Буцаева.

«Раней паведамлялася пра 15-гадовую дзяўчыну грузінскага паходжання, якая знікла ў Мінску. Як аказалася, яна збегла ад бацькоў са сваім жаніхом 1994 года нараджэння, калі даведалася, што яе збіраюцца выдаць замуж за іншага», — патлумачыла Аксана Буцаева.

Дзяўчыну знайшлі ў сваякоў яе хлопца.

**БелТА**

## Дальнабойнік з Польшчы спрабаваў абмяняць у Брэсце фальшывую валюту

Грамадзянін Польшчы спрабаваў абмяняць у брэсцкім банку падробленую банкноту вартасцю $100, паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз па Брэсцкай вобласці Таццяна Сівіцкая.

Сапраўднасць банкноты выклікала сумневы ў касіра, пра што яна праінфармавала супрацоўнікаў праваахоўных органаў. Як пасля патлумачыў кіроўца-дальнабойнік, купюру ён атрымаў ад працадаўцы на камандзіровачныя выдаткі і пра тое, што яна падробленая, не здагадваўся.

Падчасператрусу былі канфіскаваныя таксама іншыя банкноты рознага наміналу на агульную суму $601. Для вызначэння сапраўднасці валюта была адпраўленая ў Брэсцкі міжраённы аддзел Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз. У выніку з 48 банкнот падробленай аказалася яшчэ адна купюра ў сто даляраў.

Паводле заключэння эксперта, знойдзеныя грашовыя білеты вартасцю $100 выраблены спосабам плоскага афсетнага друку з фотамеханічных друкаваных формаў, вадзяны знак імітаваны фарбавальным рэчывам белага колеру.

Па дадзеным факце распачатая крымінальная справа па ч.1 арт.221 КК Беларусі (выраб, захоўванне або збыт падробных грошай ці каштоўных папер).

**БелТА**

# Заразіў жонку ВІЧ

Жыхар Баранавічаў абвінавачваецца ў наўмысным заражэнні ВІЧ-інфекцыяй іншага чалавека, паведамілі ў аддзеле інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта.

Крымінальная справа распачата ў дачыненні да 28-гадовага мужчыны. Ён затрыманы і змешчаны пад варту. У якасці пацярпелай па справе пакуль праходзіць адна жанчына — жонка падазраванага, якая і напісала заяву ў міліцыю.

Па дадзеных следства, мужчына ведаў пра сваю хваробу і даваў распіску аб тым, што будзе папярэджваць пра гэта сваіх сэксуальных партнёрак, але не рабіў гэтага. Колькі чалавек ён заразіў, пакуль не высветлена. Мужчыну пагражае ад 2 да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

# У Пінскім раёне зніклі дзве сястры

Міліцыянты і сваякі шукаюць 16-гадовую Людмілу Богдан і яе 15-гадовую сястру Святлану. 20 студзеня дзяўчаты пайшлі з дому і не вярнуліся.

Абедзве вучацца ў Пінскім каледжы. Жывуць з бацькамі ў вёсцы Высокае, паведамілі ў Пінскім ГАУС. Сёстры выйшлі з дому каля 11.00 20 студзеня і з таго часу на сувязь не выходзілі, сёння іх месцазнаходжанне не вядомае.



Прыкметы Святланы: на выгляд 16—18 гадоў, рост каля 165 см, хударлявага целаскладу, авальны твар, валасы да плячэй, фарбаваныя ў каштанавы колер, вочы светлыя. Была апранутая ў чырвоную куртку з капюшонам, чорныя легінсы, швэдар, чорныя боты на абцасах.

Прыкметы Людмілы: на выгляд 16—18 гадоў, рост каля 170 см, хударлявага целаскладу, авальны твар, валасы да плячэй светла-русага колеру, вочы светлыя. Была апранута ў куртку карычневага колеру з капюшонам, цёмна-сінія джынсы, швэдар, чорную вязаную шапку, чорныя боты на абцасах.

## Дырэктар у дырэктара выцягнуў з курткі грошы

Два дырэктары прыватных прадпрыемстваў выпадкова сустрэліся ў бары ў Вілейцы.

Раней яны былі знаёмыя, сталі адзначаць сустрэчу. Адзін з іх адышоў ад століка. А ў другога, 30-гадовага вілейчука, на той момант былі фінансавыя цяжкасці. Ён скарыстаўся момантам і выцягнуў з кішэні курткі знаёмага 2 мільёны 800 тысяч рублёў, расказаў начальнік Вілейскага райаддзела Следчага камітэта Яўген Мягкоў.

Пацярпелы спрабаваў самастойна разабрацца і вярнуць грошы, але не выйшла. Ён звярнуўся ў міліцыю. Завялі крымінальную справу за крадзеж.

— Падобныя выпадкі ў кавярнях, дзе няма магчымасці забяспечыць належную ахову рэчаў, нярэдкія, — кажа Яўген Мягкоў. — Таму пры іх наведванні раіў бы больш адказна ставіцца да захоўвання сваіх рэчаў, не пакідаць іх без нагляду.

**rh.by**

# «Найхутчэй, усё ўжо вырашана прэзідэнтам, але ўсё ж пішу, спадзяюся»

Чытаю ваша выданне, лічу яго самым праўдзівым, таму і пішу вам. Я ні на што не спадзяюся, дасылаючы вам гэты ліст. Найхутчэй, усё ўжо вырашана прэзідэнтам, але пішу аб трывожным пытанні.

Злабадзённая тэма нашага сённяшняга жыцця — павелічэнне пенсійнага ўзросту для жанчын. Ну як можна дадумацца да гэтага? Ці ёсць сумленне ў таго, хто распрацоўвае і прапануе гэтую праграму? Прэса заўсёды знойдзе патрэбную колькасць асоб і прыгожыя словы для іх, якія скажуць так па розных асабістых прычынах. І калі прэзідэнт кажа пра тое, што па гэтым пытанні будзе раіцца, то мы ўпэўненыя ў тым, што будзе так, як ён скажа.

Асноўная маса працуючых жанчын думае пра гэта зусім інакш.

1. Ну як можна даваць для развагаў усім нам табліцу пенсійнага ўзросту па краінах? Усё спазнаецца ў параўнанні, але ў параўнанні не лічбаў, а ў параўнанні з узроўнем жыцця жанчын. Многія ж з нас проста выжываюць, а не жывуць на свае мізэрныя заробкі, а пасля і пенсію (у 2015-м яна вырасла на 5%, а цэны на ўсё на колькі?). Пра ўзровень жыцця ў іх і ў нас не варта і казаць.

2. Здароўе жанчын. Шмат кажам пра клопат аб здароўі жанчын, а на самай справе? Паглядзіце на чэргі ў паліклініках, у лякарнях! Сёння ў нашай краіне няма здаровых людзей, у тым ліку жанчын, ёсць проста дрэнна абследаваныя.

3. Ці стане багацейшай рэспубліка ад павелічэння пенсійнага ўзросту? Калі хтосьці ў нейкай галіне зможа папрацаваць яшчэ пасля 55-ці, дык хай папрацуе, а хтосьці марыць, толькі хутчэй бы 55, каб можна было хоць крыху пажыць на пенсіі. І такіх большасць.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Аляксандр Рыгоравіч мае рацыю, што на выбарах прэзідэнта (2015) мы зрабілі правільны выбар за мір і спакой у краіне, яго праўда. Але, галасуючы за яго кандыдатуру, мы былі ўпэўненыя, што нашае жыццё павінна ўсё-такі лепшаць хоць крыху, але штогод. Павелічэнне ж пенсійнага ўзросту для жанчын адкіне нас значна назад, пагоршыць адразу ўсё.

У далёкія цяжкія часы савецкі сатырык Аркадзь Райкін часта казаў: «Колькі год жыве чалавек? 6 год да школы і … на пенсіі», — працягнеце вы. А нам гэтага тэрміну і не пражыць па Райкіну. Спадзяёмся на ўсёмагутную сілу прэсы, каб думка нас, простых жанчын, была пачутая.

**Л.С., 53 гады, Ваўкавыск**

# Зомбі-краіна

Атручаныя вірусам, напаўспарахнелыя людзі бадзяюцца па горадзе і зжыраюць усіх, хто вытыркаецца з іх гнілой біямасы. Пры канцы фільма звычайна з'яўляецца герой-адзіночка, які ўсіх выратоўвае ці забівае, у залежнасці ад густу гледача. Гэта фільм, фантастыка… А тут — краіна-зомбі.

Пачыналася ўсё з эксперыменту. Купка людзей вырашыла паглядзець, што атрымаецца, калі пабудаваць сацыялізм у асобна ўзятай краіне.

З кавалкаў памерлай Расійскай Імперыі быў сшыты Франкенштэйн-СССР. Цела атрымалася такое: гігант з моцнымі цяглічамі, на гліняных нагах, затое з доўгімі рукамі і пражэрлівымі сківіцамі.

Франкенштэйн быў з мёртвага цела, і, як дохлая рыбіна, пачаў гніць з галавы. Мозг паступова адасобіўся ад цела і загніў. А цела паразвальвалася на кавалкі. Эксперымент праваліўся. Але палітыкі пачалі эксперыментаваць з кавалкамі Франкенштэйна. Кожны ўзяў па кавалку. І ўзяліся за справу, з кавалка зляпілі новыя целы. Так з'явіліся краіна-зомбі.

Як вядома, зомбі — гэта цела без душы, але з функцыянальным мозгам.

Толькі вось незадача — душа не зусім памерла, у летаргічным сне была. Але яна жывая, і нават пачынае вяртацца ў цела, паступова яго ажыўляючы. Аджывее цела, будзе жывая, здаровая краіна. Гэта не цікава… Гэта любы дурань зможа, трэба працягваць эксперымент. Было вырашана ўмярцвіць душу канчаткова. Для краіны што з'яўляецца душой? Культура, мова, самабытнасць. Пачалі іх знішчаць. Ізалявалі здарам — тлушчам кішэчным.

Ходзіць, функцыянуе мярцвяк. Але вось бяда, старая праблема не вырашана: без душы і мозг добра працаваць не можа — загнівае мозг. Што далей з краінай-зомбі будзе? Невядома.

Ва ўсходняга навукоўца эксперымент больш удалы атрымаўся. Да цела дзяржавы падвялі трубкі і замест крыві пачалі напампоўваць нафтагазавую сумесь. Цела паружавела, налілося моцай, зноўку нарасціла цяглічы.

Здавалася б, вось, жыві ды радуйся! Толькі ў вучонага-эксперыментатара фантазія слабаватая, гэты дуралом вырашыў ізноў гіганта зляпіць, і ўжо прышывае да яго новыя кавалкі.

Цалкам магчыма, што і зомбі нашага скора далучыцца, можа, у выглядзе трэцяй нагі ці там пятага пальца. Эксперымент працягваецца. Але мне здаецца, гэта скончыцца тым, што і ў першы раз — вялізным пшыкам.

**Алесь Рыбачонак, Міханавічы (Мінскі раён)**

**Жаба**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Настальгічны ўспамін пра 2010 год.**

**Прыватныя абвесткі**

Спачуваем Алегу Гардзіенку ў сувязі са смерцю бабулі.

**Калегі**



«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Памятаеце Горватаву цётку Волю? Яна памерла

Піша **Андрусь Горват** — той, які пераехаў з Мінска на Палессе, жыць у дзедавай хаце.

Цётка Воля расказвала:

«Вельмі добры быў бацька мой. Ніколі не біў нас. Нічога ніякага. Ён быў сільна добры. Але хварэў. Баба Ганна знізу вось цяпер жыла, так? А то насупраць наверсе мы жылі. Там наша хатка была. Каморка. Баба Еўга, бацькава маці, выгнала бабу Ганну з дзедам Іванам у камору. Там вада замярзала. Я яшчэ і сёння помню тую хатку. Ішла я ў першы клас з той хаткі. Мама напаліць печку крэпка. Мы ўсе — і тата, і мама — усе на печы. І кругом посцілкамі паабпінае. Так і спалі. Я так добра гэта запомніла.

Вой, Госпадзе. Дарма што без бацькі жылі — бацька памёр, — але ў нас мама была такая, што ўсё ў нас было. Яна сама і плацці шыла нам. У нашых тэчак [*сяброваk — дыялектнае слова.* — **Рэд.**] па адным плацці, а ў нас з Юляй хапала.

Галя тэчка была. Яна ў мяне потым кумою стала. Хрысціла маіх хлопцаў. Во. Дык яна з бацькам жыла, з маткай. Ніколі матцы сваёй нічога не раскажа. Ніводнага сакрэту матка яе не знала. А наша матка ўсе сакрэты Галіныя знала. Усё раскажа. Прыйдзе:

— Арцёмаўна, сядай, я табе раскажу.

А хлопец які цукерак дасць ці што, яна нясе:

— Арцёмаўна, на, ты першая, потым я.

Ніколі сама не з'есць без маткі. Усе цукеркі матка з ёю ела.

Прыйдзе, стаіць, стаіць пад нашай хатай з хлопцам, захацела пасцаць, а стыдна хлопцу сказаць, што сцаць хоча. Прыбяжыць:

— Вой, Арцёмаўна, не магу ўжо. Дай хутчэй-быстрэй куды што-небудзь.

Тая вядро ёй паставе. Пабегла ізноў да таго хлопца. Канцэрт! То не Галя была, а я не знаю — конь!

Матка яе ўсю дарогу [*усё жыццё — дыялектнае.* — **Рэд.**] любіла».

Цётка Воля гучна смяецца. І я смяюся разам з ёю.

* * *

Маці гасцявала ў мяне, калі патэлефанавалі з клінікі і сказалі забраць ейную сястру. Усім усё стала зразумела — цётку Волю адпускаюць дадому памерці палюдску. Каб не ў бальнічнай палаце сярод чужых хворых людзей, а дома.

Маці плакала.

— Эх, сястра... Узяла на сябе матчыну долю...

Калі была маладая, цётка Воля не ўмела ўседзець дома, хадзіла на вячоркі ды на спатканні, а мая маці гаспадарку вяла, квіткі ў Доме культуры прадавала. Вось яны і сварыліся між сабою.

Маці хоць і прыгажэйшая ды маладзейшая за цётку была, але ўзяла на сябе ролю лакаматыва ў сямейным цягніку.

Тая традыцыя захавалася і калі сёстры сталі пенсіянеркамі. Жылі ў розных мястэчках, аднак паранейшаму — нібы ў адной хаце. Маці бурчэла, што цётка рамонт у сябе не робіць, што ў секту падалася. Цётка ж хадзіла на агароды ды да сведкаў Іеговы. Гэты сямейны цягнік няспынна бег у касмічную прастору, пакуль не пазванілі з клінікі і не сказалі забіраць цётку дадому.

Маці карміла яе, мыла, насіла на вядро.

Усё, што я дагэтуль ведаў пра пяшчоту, не каштуе нічога. Пра сапраўдную пяшчоту мне расказалі дзве сварлівыя сястры.

Прайшоў тыдзень. Другі. Цётка не памірае. З далёкага падарожжа вяртаецца ейны позірк.

— Дзе ты была? Чаго ўсміхаешся? Я з табой бы з хрустальнай вазай нашуся, а ты ўсміхаешся.

Маці тэлефануе мне і расказвае, што цётка прыдурваецца са сваёй хваробаю. Я разумею: цягнік пабег далей. Праз месяц маці йдзе ў двор і з галін і дошак збівае для сястры хадункі. Яшчэ праз месяц цётка Воля з'язджае ў сваю калінкавіцкую кватэру з высокай столлю. А маці — у сябе — тэлевізар глядзіць. А разам яны — сям'я.

* * *

Сёння цётка Воля, нарэшце, вызвалілася ад хваробы, якая яе мучыла. У мяне няма адчування, што я згубіў цётку. Там, куды яна пайшла, яе будуць чакаць дзясяткі людзей, успамінамі пра якіх яна дзялілася. А мы, пазасталыя, развітаемся з ёй тут, на зямлі. Але развітаемся толькі на час. На кароткі час зямнога блукання. Свой кароткі час я пражыву з любоўю да жыцця, пражыву без злосці. Так, як мяне навучыла цётка Воля.



